ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№8 (53) жнівень 2015 год

CATHOLICNEWS.BY

# Басейн і шахматы для моладзі:

## у Оршы прайшла Першая парафіяда Віцебскай дыяцэзіі

Стар. 8 – 9



## Любоў да мудрасці

Інтэрв'ю з доктарам філасофіі сястрой Тэрэсай Абалевіч

чытайце на стар. 6

## Нік Вуйчыч прыедзе ў Беларусь

Бязрукі і бязногі прапаведнік правядзе сустрэчу ў комплексе «Мінск-Арэна»

Стар. 2

## Браслаўскі фэст

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч прыгадаў маскоўскі путч і заклікаў беларусаў да навяртання

Стар. 4







# Католики остаются в Антарктиде

**Недавно по сети, со ссылкой на «Радио Новая Зеландия», разошлась новость о том, что Католическая Церковь покидает Антарктиду. Однако, как сообщает сайт проекта «Гаудете», информация оказалась несколько преувеличенной.**

Действительно, количество людей, посещающих богослужения в межконфессиональной Капелле Снегов в Антарктиде, приблизилось к нулю, поэтому Национальный научный фонд, курирующий американскую Антарктическую программу, принял решение отказаться от услуг католических капелланов, которых с 1957 года посылала туда епархия из Крайстчерч (Новая Зеландия). Вместе с тем на крупнейшей антарктической станции Мак-Мердо, где и находится Капелла Снегов, останется военный капеллан.

«Снижение религиозности, уменьшение количества людей, работающих на станции, и бюджетные сокращения – все эти факторы привели к решению, что необходим лишь один капеллан», – объясняет о. Дэн Дойл, приезжающий на станцию Мак-Мердо, начиная с 1984 года. Одновременно «Ватиканское радио» напоминает, что, несмотря на закрытие новозеландской миссии, на Белом континенте продолжают работать католические священники из Аргентины, Чили и Франции. Планируется возведение часовни на итальянской станции Марио Зуккелли.



Аргентинская миссия началась еще в 1946 году с прибытием первого священника-иезуита Фелипе Лерида. Он стал первым, совершившим мессу на этом континенте. Он же поставил в Антарктиде первый крест, чуть позже получил особое благословение от Папы Пия XII на свое служение. Сейчас аргентинские священники служат на трех научных станциях: Марамбио, Бельграно II и Эсперанса. На станции Марамбио построена часовня Пресвятой Девы Марии Луханской. 5 марта 2014 здесь была освящена колокольня. Священникам позволил Папа Франциск, а в храме хранятся его Апостольское благословение, пиуска, розарий и медальон.

На станции Бельграно II расположена необычная часовня Божьей Матери Снежной, сделанная полностью изо льда. Здесь почитается Пресвятая Богородица с Итати – одна из самых популярных богородичных святынь в Аргентине. Это самое южное культовое сооружение в мире.

Часовня на базе Эсперанса посвящена святому Франциску Ассизскому. Здесь построено около полусотни домов, действуют школа, бар, казино, музей и госпиталь. Именно в нем и появился на свет первый, родившийся в Антарктиде человек. Поэтому наличие церкви особенно важно.

На чилийской базе Villa Las Estrellas (Город звезд) возведена часовня Марии, Царицы Мира. Это один из немногих храмов, сделанный из морских контейнеров.

Кроме этого на архипелаге Кергелен на французской арктической базе находится церковь Богоматери Ветров. Между храмом и морем расположена статуя Девы Марии с Младенцем.

Еще на одном французском острове – Мартин-де-Вивье – стоит часовня Девы Марии – Звезды моря, а на аргентинской станции Оркадас – часовня Христа.

Священники, несущие свое служение в Антарктиде, совершают богослужения, уделяют таинства, созидают атмосферы тепла и дружбы, так необходимые в этом удаленном уголке мира.

*sibcatholic.ru*

# Легендарны прапаведнік Нік Вуйчыч прыедзе ў Беларусь

**Сустрэчу пад назвай “Жыццё без межаў” правядзе ў Беларусі легендарны бязрукі і бязногі прапаведнік Нік Вуйчыч.**

Сустрэча запланаваная ў комплексе “Мінск-Арэна” 15 красавіка 2016 года. Кошт квіткоў, якія можна купіць праз інтэрнэт на Kvitki.by, ад 175 тыс. да 1 млн. 620 тыс. рублёў.

Нік Вуйчыч – серб па нацыянальнасці, нарадзіўся 4 снежня 1982 г. у Аўстраліі з сіндромам тэтраамеліі – рэдкім спадчынным захворваннем, якое прыводзіць да адсутнасці чатырох канечнасцяў. Але ў далейшым ён стаў папулярным пратэстанцкім прапаведнікам і прафесійным матывацыйным аратарам. Нік Вуйчыч ажаніўся са здаровай жанчынай, і нядаўна ў іх сям’і нарадзілася ўжо другое дзіця.

– Я нарадзіўся без рук і ног, але не наракаю на лёс. Я падарожнічаю па свеце, каб натхніць мільёны людзей. Я заклікаю ўсіх узброіцца верай, надзеяй, любоўю, адвагай і пераадолець усе перашкоды, якія стаяць на шляху выканання мараў. Я хачу натхніць вас на пераадоленне ўласных праблем і цяжкасцяў. Ваша жыццё павінна быць цудоўным, – кажа прапаведнік.

*katolik-gomel.by*





# В Индонезии освящена самая высокая в мире статуя Девы Марии

Около 30 000 человек присутствовали 16 августа на освящении самой высокой в мире статуи Девы Марии в индонезийском городе Амбарава. Высота изваяния – 42 метра, и это приближает индонезийскую скульптуру к статуе Свободы в Нью-Йорке (46 метров, не считая цоколя).

На освящение скульптуры собрались католики из сотен индонезийских приходов. Мессу в святилище Божией Матери в центре острова Ява возглавили семь епископов.

В конце богослужения архиепископ Иоанн Пуджасумарта окропил статую святой водой, стоя в люльке телескопического крана.

Авторами статуи являются трое местных скульпторов, ранее изваявших несколько десятков других религиозных статуй в Индонезии.

Грот Богоматери в Амбараве считается символом межрелигиозного диалога в стране. Недавно здесь состоялась встреча представителей различных религий, в ходе которой мусульмане исполнили суфийский танец под статуей Девы Марии.

*Благовест-Инфо*



Лынтупы

# Фэст святой Ганны

**Фэст святой Ганны ў Лынтупах – радасная падзея для жыхароў мястэчка. Кожны год 26 ліпеня сюды з'язджаецца шмат гасцей, сустракаюцца людзі, якія даўно не бачылі адно аднаго.**

■ **Нэля Лось**, *г.п. Лынтупы*





На плошчы шуміць кірмаш, дзе можна набыць прыгожы абраз ці сувенір на ўспамін пра фэст. Дзеці абступаюць сталы з салодкімі пачастункамі. Што ж гэта за свята без пеўніка на палачцы ці цукеркі ў стракатым фанцiку?!

Перад фэстам святой Ганны ў парафіі святога Апостала Андрэя адбыўся шэраг важных падзей. На працягу двух дзён вернікі прыступалі да сакраманту пакаяння і паяднання. Кожны з нас мае схільнасць да граху і патрабуе навяртання праз споведзь.

У суботу 25 ліпеня а 18-й гадзіне адбылася святая Імша з малітвай аздараўлення, з выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту. Падчас яе ксёндз-пробашч Павел Кнурэк і ксёндз Анджэй Бульчак з Пастаўскай парафіі маліліся над кожным з нас з пажаданнямі прыняць Божую волю адкрытым сэрцам, каб нашыя крыўды і страхі не прыводзілі да аслаблення здароўя, да развіцця розных залежнасцей.

Немагчыма апісаць словамі тыя пачуцці, якія ахопліваюць, калі святар ускладае рукі на галаву. У гэты момант прыняцця Божага дару быццам неба адкрываецца над табой.

А 21-й гадзіне адбылася малітва на магілках за памерлых. Разам з ксяндзом Паўлам усе прысутныя маліліся аб Божай Міласэрнасці для іх. Нібы зоркі, свяціліся агеньчыкі свечак на магілках родных і знаёмых. Прыпомніліся словы са Святога Пісання, калі Езус кажа: "Хто ў Мяне верыць, хоць і памрэ, жыць будзе вечна" (Мц 24,44). Так, яны ўсе жывуць тут, на зямлі, у нашых сэрцах, а ў вечнасці – у Богу, дасканалым, Які ўсіх любіць.

У нядзелю фэст распачаўся ўрачыстай святой Імшой аб 11-й гадзіне. У касцёле яблыку не было дзе ўпасці. Ксяндзы Анджэй і Яцэк спавядалі ахвотных.

Гараць знічы каля абраза святой Ганны. Кветкі як быццам сцякаюць з абраза, ператвараючыся ў букеты рознакаляровых далікатных лілей, якімі ўбраны алтары.

Гучаць прыгожыя ўзнёслыя спевы касцельнага хору. Ксёндз Павел сардэчна вітае парафіян і гасцей. Пранізліва і кранальна гучаць словы пра Эўхарыстычны Хлеб, якім Езус корміць свой народ, пра нашае жыццё – вялікі дарунак Бога і бацькоў, каторае, як прыгожую кветку, з любоўю і надзеяй мы нясём да нашага Збаўцы, бо Ён з намі да скančэння веку ў радасці і ў выпрабаваннях.

Урачыстай працэсіяй з Найсвяцейшым Сакрамантам вакол касцёла закончылася святочная Літургія. А на плошчы выстраіліся машыны для блаславлення з нагоды ўспаміну святога Крыштафа – апекуна кіроўцаў.

А 16-й гадзіне адбыўся канцэрт. На сцэне насупраць касцёла прыгожа спявалі і "заводзілі" гледачоў удзельнікі мастацкай самадзейнасці і артысты мінскай філармоніі. Скакалі і кружыліся ў карагодах, пляскалі ў ладкі і дружна падпявалі дзеці, дарослыя і сталыя гледачы. Гэта было цудоўнае свята: са шчырымі малітвамі, вясёлымі спевамі і танцамі, кірмашовымі забавамі і прыгодамі.

Няхай апякуецца над нашай парафіяй святая Ганна, умацоўваючы сем'і, сужэнствы, адказнасць мацiхрысціянак за выхаванне дзяцей! Прывітыя з маленства цноты вернуцца добрым плёнам у грамадства і ў бацькоўскі дом.

Вялікі дзякуй нашаму ксяндзу-пробашчу Паўлу за святарскую працу, якая набліжае нас да Пана Бога, за дабрыню і аптымізм. Таксама дзякуем сёстрам-законніцам Люцыне і Антоніі за заняткі з дзецьмі і моладдзю, удзельнікам парафіяльных супольнасцяў за актыўны ўдзел у падрыхтоўцы святочных урачыстасцяў.

Няхай міласэрны Езус благаслаўляе ўсе Вашы справы, а Святы Дух узмацняе Вас!



## У Прэзідэнцкім палацы ў Варшаве штодня будуць адпраўляць Імшу

**У капліцы Прэзідэнцкага палаца ў Варшаве штодня будзе праходзіць святая Імша, паведаміў святар новаабранага Прэзідэнта Анджэя Дуды Збігнеў Крас. Ён адзначыў, што з просьбай узяць на сябе гэтую функцыю да яго звярнуўся сам Прэзідэнт Дуда 25 ліпеня.**

Паводле яго слоў, з Анджэем Дудам яны знаёмыя некалькі гадоў. Дуда прыязджаў у Ліпніцу-Мураваную, дзе Крас быў пробашчам парафіі "ў сувязі са сваімі палітычнымі і грамадскімі абавязкамі", паведамляе "Радио Польша".

Новы Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда, інаўгурацыя якога адбылася 6 жніўня, не раз падкрэсліваў, што з'яўляецца чалавекам, каторы глыбока верыць. У прыватнасці, у сваёй перадвыбарнай кампаніі ён абяцаў "блакаванне ўсіх дзеянняў, што закліканы падрэзаць карані польскага грамадства – карані нашай веры. Гаворка ідзе пра чужыя ідэалагічныя плыні і чужыя паняцці, якія ў разуменні левай ідэалогіі павінны стварыць новага чалавека, з чым я, каталік, чалавек, галава сям'і, абсалютна нязгодны".

*krynica.info*



# У Браславе арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч прыгадаў маскоўскі путч і заклікаў беларусаў да навяртання








**У Браславе прайшлі ўрачыстасці Маці Божай Валадаркі Азёраў. Галоўнай св. Імшы на алтары-караблі папярэднічалі малітвы ў касцёле.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Алёна Фянько**, *фота*

Жыхары і госці Браслава маліліся апоўначы на св. Імшы, якую праводзіў арцыбіскуп Гінтарас Грушас з Вільні. Вернікі таксама прайшлі ў працэсіі са свечкамі, паслухалі канцэрт духоўнай музыкі і памаліліся на адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Сапраўдны фэст прадугледжвае паяднанне з Богам у сакраманце міласэрнасці. Таму святары спавядалі ўсіх ахвотных.

Галоўным цэлебрансам на алтары-караблі быў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч з Мінска. Разам з ім маліліся біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, арцыбіскуп Гінтарас Грушас з Вільні і дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB. З біскупамі ў канцэлебры маліліся святары з Віцебскай і іншых дыяцэзій.

Гаспадар дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч шчыра прывітаў усіх прысутных: духавенства, вернікаў і прадстаўнікоў свецкай улады.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч ў казанні падкрэсліў знамянальныя падзеі гісторыі, якія супалі са святамі ў гонар Марыі. Так, напрыклад, успамінаючы сваё служэнне ў Расіі, ён прыгадаў маскоўскі путч 1991 года, які пачаўся 19 жніўня і завяршыўся 22 жніўня – у дзень Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы. Арцыбіскуп выказаў упэўненасць, што гэта не проста супадзенне лічбаў, а выразны знак таго, што Марыя як Каралева супакою паспрыяла мірнаму вырашэнню складанай сітуацыі ў тагачасным Савецкім Саюзе. Танкі адступілі з Масквы, таму што Расія ў свой час была ахвяраваная Беззаганнаму Сэрцу Марыі. Учыніў гэта святы Ян Павел ІІ у 1984 годзе.

Знамянальнай датай таксама з'яўляецца дзень 8 снежня, калі ў Віскулях, у Беларусі, было падпісанае пагадненне аб распадзе Савецкага Саюза. Палітычнае рашэнне прадстаўнікоў Беларусі, Украіны і Расіі прывяло да мірнага ўтварэння новых незалежных дзяржаў. Невыпадкова гэта адбылося ў дзень, калі Каталіцкі Касцёл адзначае свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Марыя ахінае плашчом кожнага, хто аддае сябе Ёй у апеку. Але неабходна і нам памятаць пра сучасныя выклікі часу. Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч прыгадаў асноўныя пагрозы для вернікаў. Гэта алкагалізм, наркаманія і неўпарадкаванае сэксуальнае жыццё. Беларусь з'яўляецца адной з краін-лідараў па спажыванні алкаголю. Гэта можа стаць нацыянальнай трагедыяй. Іерарх заахвоціў вернікаў быць прыкладам цвярозасці, глыбокай веры і малітвы.

Завяршылася ўрачыстасць у Браславе спевам "Магутны Божа", які вельмі добра адлюстроўвае небяспеку духоўнага рабства і бязмежную моц магутнага Бога, Які можа змяніць усё на лепшае.



# З жыцця Касцёла

## Ашмяны

**Я пенсіянер і католік-практык з горада Ашмяны. Па магчымасці набываю каталіцкую прэсу, якая выдаецца ў нашай краіне. "Каталіцкі Веснік" выпісваю ад таго часу, як ён быў уключаны ў падпісны каталог і хачу падзякаваць менавіта за магчымасць падпіскі.**

Асобная падзяка за тое, што ў "Каталіцкім Весніку" друкуюцца матэрыялы пра падзеі ў каталіцкім асяроддзі па ўсёй краіне. Напрыклад, у 7-м нумары можна было прачытаць пра ўрачыстасці ў Будславе, Тракелях, Быстрыцы, Дрысвятах і іншых мясцовасцях.

Напішу коратка пра рэлігійнае жыццё ў нашай старане.

19 ліпеня многія вернікі з Ашмянскага дэканата ўдзельнічалі ў адпустовых урачыстасцях Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі, на Астравеччыне. Гудагайскі фэст традыцыйна збірае сотні пілігрымаў як з блізкіх, так і з далёкіх мясцовасцяў.

Ашмянская парафія таксама рыхтуецца да двух адпустовых урачыстасцяў. 26 жніўня – свята Маці Божай Чэнстахоўскай, абраз якой знаходзіцца ў бакавым алтары касцёла. А 29 верасня адбудзецца галоўная парафіяльная ўрачыстасць – у гонар Святога Міхала Арханёла, пад тытулам якога зарэгістраваны касцёл.

Важная падзея адбылася 26 чэрвеня ў Жупранскай парафіі нашага дэканата, а менавіта Дзень адзінства Салезіянскай Сям'і. Урачыстасці праходзілі ў юбілей – 200-годдзе з дня нараджэння Святога Яна Боска. На свята запрасілі ўсе групы Салезіянскай Сям'і з розных мясцовасцяў. Жупраны былі выбраны не выпадкова, бо менавіта адсюль паходзіць рэгіянальны настаяцель Місіі Святога Францішка Сальскага ксёндз Віктар Гайдукевіч, які і цэлебраваў святую Імшу. Слова гаміліі скіраваў да прысутных біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB. Жупранскія парафіяне добра памятаюць ксяндза-салезіяніна Аляксандра Яшэўскага, які ў 2002-2003 гадах працаваў у гэтай парафіі, а зараз яго горача віталі і віншавалі з нагоды біскупскай намінацыі. Другім шаноўным госцем быў ксёндз Юзаф Занеўскі – былы пробашч Жупранскай парафіі ў 80-ыя гады, які стаяў ля вытокаў Салезіянскага руху на нашых землях пасля вядомых гістарычных перамен, а ў цяперашні час з'яўляецца пробашчам Катэдральнай парафіі ў Маскве.

Рэдакцыі і чытачам "Каталіцкага Весніка" дасылаю мае найлепшыя пажаданні.

***Францішак Літвіновіч,***
*Ашмяны – Жупраны*
*(Гродзенская дыяцэзія)*




## Валожын

# Дарагая сэрцу сустрэча

**На пачатку жніўня да нас на Валожыншчыну завітаў, як сонейка, з Непакалянава наш дарагі і ўсім нам, парафіянам касцёла Святога Юзафа, мілы наш былы пробашч а. Томаш Лях на святкаванне свайго 90-гадовага юбілею.**

Прыехаў, нягледзячы на спякоту і на свой даволі сталы ўзрост, бо пакінуў тут часцінку свайго сэрца, бо горача любіць наш беларускі край і просты адданы народ, усіх нас, з кім крочыў праз столькі гадоў пры аднаўленні нашай духоўнай святыні, а таксама ў Забрэззі і Пяршаях.

У нядзелю, 9 жніўня, а. Томаш спачатку пабыў на святой Імшы ў Забрэззі, дзе яго сардэчна віншавалі парафіяне, якія з хваляваннем чакалі сустрэчы са сваім былым пробашчам, духоўным Айцом.

Потым на святой Імшы а 9-й гадзіне ў нашым касцёле было асабліва шматлюдна, бо кожны хацеў убачыць і пачуць голас любімага пастыра, якому заўсёды смела раскрывалі свае сэрцы, і павіншаваць яго з нагоды слаўнага юбілею.

Вельмі цёпла прагучалі віншаванні Тэрэзы Пазновіч, а таксама былога дырэктара сельгастэхнікі сп. Глябовіча, які пажадаў а. Томашу добрага здароўя і пражыць хаця б 130 гадоў. Выступоўца нагадаў усім прысутным, з якой невычэрпнай энергіяй а. Томаш пачынаў свой працоўны дзень падчас рамонту касцёла.

Наш ксёндз-пробашч Генрых Акалатовіч таксама шматразова казаў цёплыя словы ўдзячнасці і віншаванняў на адрас юбіляра.

У сваёй прамове а. Томаш успомніў пра сваё пакліканне служыць Богу і сваё моцнае жаданне быць верным адданым манахам усё жыццё.

Напрыканцы юбіляр гасцінна запрасіў усіх на кубачак кавы.

*Ад імя вернікаў парафіі*
*з павагай і любоўю,*
***Хрысціна Маркоўская***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грэка-каталіцкую (?) гарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Любоў да мудрасці

**Сястра Тэрэса Абалевіч паходзіць з Відзаў, што на Віцебшчыне, і з'яўляецца навукоўцам. Мае тытул доктара філасофіі і займаецца выкладчыцкай дзейнасцю, навучаючы студэнтаў у Папскім універсітэце Яна Паўла II у Кракаве. Кіруе кафедрай філасофіі рэлігіі. "Каталіцкі Веснік" сустрэўся з сястрой Тэрэсай і пагутарыў пра любоў да мудрасці. Менавіта так перакладаецца з грэцкай мовы слова "філасофія".**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*



**– Сястра Тэрэса, наколькі я разумею, спачатку ў Вас з'явілася любоў да манаскага жыцця, а потым ужо захапленне філасофіяй?**

– Так, я належу да ордэна сясцёр-служабнічак і ўжо 18 гадоў іду шляхам манаскага паклікання. Пачула Божы голас і вырашыла стаць манахіняй. А вось пра тое, што давядзецца займацца навукай, нават і не думала.

**– І дзе пачаліся Вашыя прыгоды па спасціганні філасофіі?**

– Божая воля завяла мяне ў Арэнбург, што ў Расіі, дзе і давялося сутыкнуцца з філасофіяй. Я навучалася там у філіяле каледжа Св. Фамы, які цяпер мае статус інстытута. Падчас навукі я перакладала тэксты па філасофіі з польскай мовы на рускую. Гэта было неабходна, каб даць магчымасць навучэнцам лягчэй засвойваць веды. А потым ужо ў польскім Тарнаве, вывучаючы тэалогію, напісала магістарскую працу па філасофіі. Тэма датычыла асобы расійскага філосафа Уладзіміра Салаўёва.

**– Што Вас найбольш захапляе ў філасофіі?**

– Дзякуй за цікавае пытанне. Па-першае, гэтая навука дае магчымасць пагллядзець на розныя з'явы чалавечага жыцця з розных пунктаў гледжання. Людзі з розных эпох шукаюць праўду праз "любоў да мудрасці". Як хрысціяне мы цудоўна разумеем, што праўда – яна адна. Але як філосаф я разумею таксама, што людзі па-рознаму шукаюць праўду. І таму філасофія вучыць мяне адкрытасці на думкі іншых мысляроў. Філосаф не можа не паважаць меркаванне іншых, бо кожны мае права на свой пункт гледжання. Канешне, бываючы на розных семінарах, я часта дыскутую з іншымі навукоўцамі, прапаную ім свае аргументы, але адначасова вельмі цаню іх свабодныя перакананні. Гэта другі момант, які мне вельмі падабаецца ў філасофіі: адкрытасць.

**– Атрымліваецца, што, акрамя усім вядомага тлумачэння філасофіі як любові да мудрасці, можна таксама сказаць: філасофія – гэта пошук праўды?**

– Дакладна так. Яшчэ Ян Дамаскін у свой час зазначыў, што філасофія – гэта любоў мудрасці, а мудрасць – гэта Бог, значыць, філасофія – гэта любоў Бога. Таму філасофія – гэта вельмі хрысціянскі занятак.

**– А што наконт Вашага ўлюбёнага філосафа?**

– Ёсць такі. Я пісала доктарскую дысертацыю па ім. Гэта Сімяон Франк. Расійскі філосаф, які працаваў у Нямеччыне, Францыі і Англіі. Калі ўпершыню сутыкнулася з яго працамі, у мяне было пачуццё, што я б таксама так напісала, як ён. Настолькі яго думкі супадалі з маімі. Галоўная яго праца выйшла пад тытулам "Неспасцігальнае". Асноўная ідэя працы – гэта думка, што Бога нельга спасцігнуць. З іншага боку, Франк, будучы хрысціянскім філосафам, падкрэслівае блізкую прысутнасць Бога.

**– Зразумела, што Вы як каталічка любіце хрысціянскіх мысляроў. А ці чытаеце прадстаўнікоў нехрысціянскіх плыняў?**

– Безумоўна, каб добра валодаць матэрыялам, неабходна прасачыць усю гісторыю філасофіі, якая багатая на вялікія імёны старажытнасці і на філасофаў навейшага часу, што не былі вернікамі. Мой рэцэнзент у Кракаве любіў паўтараць: "Не абавязкова быць вызнаўцам, але трэба быць знаўцам". І таму, каб знайсці аргументы супраць Канта альбо Ніцшэ, трэба проста ведаць, што сказалі той самы Кант або Ніцшэ.

**– Беларуская сістэма адукацыі не прадугледжвае нейкіх уводзінаў у курс філасофіі на базе школьнай праграмы. Аднак, магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захацеў бы пачаць сваю вандроўку па ведах філасофіі. Што б Вы параілі такому чалавеку? З чаго пачаць?**

– Класік у гісторыі філасофіі – гэта Уладзіслаў Татаркевіч. Яго падручнік перакладзены на рускую мову. Можна, канешне, пачаць чытаць адразу працы некаторых філосафаў, але я не ўпэўненая, што такі шлях будзе лёгкім. Чытачу будзе цяжка зразумець, што меў на ўвазе той ці іншы мысляр, калі ён не будзе валодаць неабходнымі базавымі ведамі. Аднак магу параіць кнігі Сімяона Франка "З намі Бог" і "Рэальнасць і чалавек". Думкі, прадстаўленыя філосафам, там вельмі глыбокія, але нейкай спецыяльнай падрыхтоўкі, каб проста чытаць, не патрабуецца.

**– Сястра Тэрэса, Вам даводзіцца шмат падарожнічаць з лекцыямі. Скажыце, ці ёсць у Вас навуковыя кантакты з беларускімі адмыслоўцамі? І што можаце сказаць пра беларускую філасофію як навуку?**

– Так, безумоўна, я сустракалася з беларускімі філосафамі, якія прыязджалі да нас, у Кракаў, на семінар. Хачу адзначыць дастаткова добры ўзровень іх ведаў. Аднак трэба прызнаць, што ў Беларусі проста не хапае літаратуры па філасофіі. На жаль, слаба рэпрэзентаваная філасофская спадчына сусветнага маштабу на беларускай мове. І даводзіцца таксама сутыкацца з тым, што ў беларускіх ВНУ філасофія выкладаецца яшчэ ў старой марксісцкай парадыгме. А гэта аднабаковы падыход да справы. Як я ўжо сказала вышэй, філасофія любіць адкрытасць.

## Віншуем!

*Паважаны* ***ксёндз Анджэй Бульчак****! Дазвольце павіншаваць Вас з нагоды Дня нараджэння і даслаць нашыя найсардэчнейшыя пажаданні!*

*Дзякуй Богу за дар Вашага жыцця. Няхай Езус, якога штодня трымаеце ў сваіх далонях, благаслаўляе Вас на святарскім шляху, а Маці Божая, якая даручае свайго Сына ў Вашыя рукі, няхай абараняе мацярынскаю любоўю і ахінае сваёю апекаю. Прыміце ад нас пажаданні моцнага здароўя і шмат радасці!*

***З малітвай, вернікі Чашніцкай парафіі***

## Віншуем!

*31 жніўня наш* ***ксёндз-пробашч Уладзімір Заянчкоўскі*** *адзначае Дзень нараджэння.*

*Ад шчырага сэрца віншуем яго з гэтай нагоды і жадаем моцнага здароўя, Божай ласкі, апекі Маці Божай!*

*Мы вельмі ўдзячныя за працу на Божай ніве, за шчырасць, самаадданасць і павагу да парафіян!*

***Вернікі з вёскі Казлоўшчына***

## Ад шчырага сэрца!

*З вялікай радасцю віншуем нашых землякоў* ***кс. Уладзіміра Шымковіча****, які працуе ў Дуброўне, і* ***кс. Антона Лагунёнка****, які працуе ў в. Канстанцінава Глыбоцкага раёна, з Днём народзінаў, што прыпадаюць у кс. Уладзіміра на 7 жніўня, а ў кс. Антона – на 4 верасня.*

*Для Вас мы жадаем у Дзень нараджэння*
*Здароўя і шчасця, для сэрца гарэння*
*У Вашай святой душпастырскай справе,*
*А сілы знаходзіць у Езуса славе!*

*У шчырых казаннях – заўсёды натхнення,*
*Вядзіце ж далей нас усіх да збаўлення!*

*Плёну Вам у працы на ніве Пана Бога, моцы і мужнасці ў выпрабаваннях, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі!*

***З любоўю і гонарам за Вас, Вашы землякі – вернікі Лынтупскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Хочам павіншаваць нашага шаноўнага* ***ксяндза Уладзіміра Шымковіча*** *з Днём нараджэння, які прыпадае на 7 жніўня. Жадаем яму Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай, добрага здароўя і доўгіх гадоў жыцця на ніве служэння Богу і людзям.*

*Хочам сказаць, што мы нашага святара любім і паважаем. Ксёндз Уладзімір будуе нашу святыню ад самага падмурка, робіць гэта і сёння. Усё ў касцёле набыта дзякуючы яго намаганням, руплівасці, стараннасці. Зараз ён працуе над тым, каб набыць лаўкі ў наш касцёл.*

*Наша парафія невялічкая, але мы ўдзячныя кс. Уладзіміру за Божае слова, якое чуем з яго вуснаў, за дабрыню, стараннасць, сціпласць, разуменне. Маем надзею, што яшчэ многа гадоў разам будзем праслаўляць Пана Бога.*

***Парафіяне касцёла Маці Божай Фацімскай, г. Дуброўна***

# Неверагодныя цуды нашых чытачоў

**У сённяшнім нумары чытачы "Каталіцкага Весніка" раскажуць пра цуды, якія з імі адбываліся.**

***Ірына Грэйць***



**Ангеліна Пятровіч:**
– Для мяне цуд – ясны дзень пасля тыдня дажджу, нечаканы прыезд добрага сябра ці выцягнуты на экзамене менавіта "твой" білет. Сапраўднае шчасце знаходзіць у кожным дні нейкі цуд. Яму я радуюся як дзіця і шчыра дзякую Богу за гэты дар. Але, канешне ж, акрамя такіх маленечкіх цудаў, у маім жыцці часам адбываюцца сапраўды дзіўныя рэчы. Вось, напрыклад, год назад я ўсю пілігрымку малілася ў адной інтэнцыі і хутка ўсё атрымалася, хаця дагэтуль тры гады я сваімі сіламі спрабавала ажыццявіць гэтую мару, але нічога не выходзіла. Кожную рэч трэба рабіць у тандэме з Богам. Толькі тады ўсё атрымаецца!



**Арцём Сідаровіч:**
– Распавяду дзве маленькія гісторыі, вынікі якіх з'яўляюцца для мяне цудамі. Раней я і не думаў, што стану каталіком, буду хадзіць у касцёл, а тым больш несці сваё служэнне ў якасці арганіста. Здарылася гэта ў адну нядзелю, калі я праз сон пачуў прыгожы спеў незнаёмага голасу пад гучанне невядомага мне інструмента, што даносілася з радыё. Мне стала так цікава, што гэта такое? Я даслухаў усё да канца і даведаўся, што гэта была трансляцыя Святой Імшы з мінскага кафедральнага касцёла. Паслухаўшы гэтыя трансляцыі каля трох-чатырох нядзель запар, я вырашыў адправіцца ў касцёл, каб ужывую ўсё ўбачыць і пачуць. Пабыўшы на Імшы, я адчуў лёгкасць на сэрцы і зразумеў, што гэта менавіта тое месца, якое я шукаў. А далей было наступнае ...

Я нават не ведаў пра тое, што ўмею спяваць, а тым больш іграць на музычных інструментах. З прыходам у касцёл я адкрыў у сабе здольнасць спяваць, стаў наведваць парафіяльны хор, а з цягам часу да мяне прыйшло жаданне навучыцца граць на аргане. На гэтае рашэнне мяне натхніла арганістка і кіраўніца хору Зося. Безумоўна, усё гэта адбылося пры дапамозе Божай. Інакш бы нічога не атрымалася. І так праз вельмі кароткі тэрмін (каля трох гадоў прайшло) я навучыўся граць на аргане. Па сённяшні дзень я вучуся і ўдасканальваюся ў гэтым кірунку.



**Павел Герасімовіч:**
– Я лічу, што цуды усё ж такі здараліся ў маім жыцці. Здараліся яны не раптам, так, як са святым Паўлам, яны былі не такія, якія рабіў Езус. Але адбываліся паступова, на працягу нейкага часу. Справа ў тым, што ў мяне ад нараджэння ёсць пэўная праблема са слыхам. Як і многім у такім выпадку мне было больш складана мець зносіны з людзьмі. У вучобе патрэбна была большая ўвага. Дзякуй Богу, скончыў 11 гадоў агульнаадукацыйнай школы на "добра" і "выдатна", але наперадзе чакала дарога ў свет. Памятаю, калі паступіў у Маладзечненскі гандлёва-эканамічны каледж, думаў, што буду апошнім у сваёй групе. Тут веды даваліся ў асноўным праз лекцыі, якія выкладчыкі праводзілі ў вуснай форме. Усё патрэбна было занатоўваць. Спачатку я не паспяваў за выкладчыкамі, таму часта пасля заняткаў прасіў аднагрупніц даць спісаць, а затым была падрыхтоўка да наступнага дня.

Першыя два тыдні я лічыў, што ў мяне не хапае часу на доўгую малітву, але, калі прыціснула, пачаў маліцца (Ружанец). Маліўся ў інтэрнаце, нягледзячы на тое, што маіх суседзяў часта наведвалі шматлікія госці. І вось заканчэнне семестра: маё прозвішча аказваецца на першым месцы ў групе па паспяховасці. Другі семестр адзначыўся правядзеннем алімпіяд у каледжы па трох прадметах, дзе я займаю прызавое месца па кожным. Далей мяне чакала дарога ў інстытут, пра які я ніколі не марыў. У выпадку, калі здавалася, што прадмет не разумею і рызыкую атрымаць нізкую адзнаку, цэлы вечар аддаваў малітве: да святых, да Маці Божай. Ідучы на вучобу, таксама маліўся. І цуд здараўся!



**Кацярына Дзерваноўская:**
– Калі расплюшчваю вочы, кожны дзень бачу цуд. Справа ў тым, што, калі я зацяжарыла старэйшым сынам Янам, выпадкова знайшла ў грудзях невялікі камочак. Мой урач супакойваў, кажучы, што гэта не страшна. Я ўсё ж дамаглася абследавання. Знайшлі пухліну. Пачаліся бясконцыя паходы да ўрачоў. Праз цяжарнасць камочак рос. Было вельмі страшна. Але Госпад мяне не пакінуў. Ён зрабіў цуд, забраўшы мой страх і даўшы сілы. Біяпсія паказала, што пухліна дабраякасная. Аднак мяне папярэджвалі, што калі яна будзе расці, то можа перарадзіцца і патрэбна будзе выдаляць.

Я нарадзіла сына і не думала ні пра што, бо пухліна не расла. Калі Яну было 9 месяцаў, я зноў зацяжарыла. Зноў бясконцыя паходы да ўрачоў. Пухліна расла. На 26-ым тыдні цяжарнасці мне тэрмінова зрабілі аперацыю, выдаліўшы пухліну памерам з кулак. Бог быў са мною і даў мне шанец на жыццё! Гэта цуд, што пухліна не перарадзілася, нягледзячы на такія вялікія памеры. Кожны дзень я расплюшчваю вочы і разумею, што бачу сваіх дзяцей, мужа, родных, блізкіх і знаёмых, таму вельмі радуюся.

Яшчэ адзін цуд – мой муж. Я вельмі марыла выйсці замуж, нарадзіць дзяцей і жыць шчасліва. Аднойчы на малітве, падчас "Школы хрысціянскага жыцця і евангелізацыі" я даверыла Богу сваё жыццё і аддала Яму сваю мару. Доўга чакаць не давялося: праз тры тыдні ўсё змянілася. Праз дзевяць месяцаў мы пабраліся шлюбам. І гэта мой цуд, мой муж!



**Андрэй Зямец:**
– Па спецыяльнасці я ляснік. Гэта гісторыя здарылася са мною, калі я яшчэ вучыўся ў каледжы. Нас часта адпраўлялі на працу ў лес. І вось аднойчы я заблудзіўся і блукаў амаль да вечара. Пачынала цямнець. Я сеў каля дрэва і пачаў прасіць заступніцтва святога Антонія. Памаліўся і пайшоў, нібы ведаючы шлях, і ў хуткім часе выйшаў на трасу.

## Хвала Хрысту!

*Віншуем нашага пробашча **ксяндза Антонія Лагунёнка** з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння, якая адзначаецца 18 жніўня.*

*Таксама віншуем **ксяндза Андрэя Куліка**, які раней працаваў у нашым касцёле, а цяпер працуе ў Дзеркаўшчыне, з Днём нараджэння (26 жніўня).*

*Жадаем святарам Божай ласкі, апекі і дапамогі ва ўсіх справах.*

***Вернікі парафіі Святога Язафата Кунцэвіча, в. Канстанцінава***

## Віншуем!

*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Дзмітрыя Рацько** з Днём нараджэння!*

*Хай ад Бога Айца Вам здароўе і сілы даецца*
*І, як Сэрца Езуса, праменіцца Вашае сэрца.*
*Хай ад Духа Святога даецца Вам мудрасць і ўменне,*
*А ад Божае Маці – разважнасць, ласкавасць, цярпенне.*

***Парафіяне касцёла бл. Юрыя Матулевіча ў Ветрыне***

## Віншуем!

*29 жніўня адзначае свой юбілей **кс. Вячаслаў Пялінак**. Сардэчна віншуем яго і выказваем вялікую пашану і падзяку за натхнёную працу на Божай ніве, за шчырую, змястоўную духоўную навуку, якая набліжала нас да Пана Бога. Вы словам і прыкладам паказвалі нам Божыя сцежкі веры, надзеі і любові. Праз жыццёвыя клопаты і цяжкасці як сапраўдны пастыр Вы праводзілі нас да нябесных брамаў.*

*Дзякуем Госпаду Богу за дар Вашага святарскага паклікання, за прысутнасць у нашай супольнасці, за вялікія намаганні дзеля духоўнага адраджэння беларускай зямлі, за шчырую працу, а таксама за малітву за нас.*

*Шаноўны кс. Вячаслаў! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай мудрасці і бязмежнай міласэрнасці, адвагі і мужнасці. Спадзяёмся на выкананне ўсіх Вашых планаў і задум у справе духоўнага ўзрастання тых парафій, дзе Вы будзеце працаваць, а таксама на сустрэчу з Вамі. Жадаем, каб Маці Божая нястомна дапамагала Вам у нялёгкім служэнні Богу і народу!*

***З малітвай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Мы, вернікі касцёла Маці Божай Шкаплернай Ідолтаўскай парафіі Віцебскай дыяцэзіі, хочам павіншаваць **ксяндза Вячаслава Пялінка** з днём нараджэння, які ён святкуе 29 жніўня.*

*Наш ксёндз спагадлівы, працавіты, адразу спадабаўся ўсім парафіянам і для многіх стаў прыкладам самаахвярнага служэння Богу і людзям, хоць працуе ў нас зусім нядаўна.*

*Кожнае яго слова западае ў душу, спрыяе духоўнаму ачышчэнню.*

*Жадаем ксяндзу Вячаславу моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы, шчаслівага далейшага святарскага шляху. Няхай Усемагутны Бог асвеціць ласкай яго зямны шлях, хай заўсёды будзе добры настрой і ўсмешка на твары.*

***Парафіяне з Ідолты***

Каталіцкі ВЕСНІК №8(53) жнівень 2015 г.





# Басейн і шахматы для
## у Оршы прайшла Першая парафіяда



Ксёндз Валерый Орсік, арганізатар Першай парафіяды Віцебскай дыяцэзіі




**Дзень 14 жніўня для Оршы быў асаблівым, таму што менавіта тады распачалася першая ў гісторыі Віцебскай дыяцэзіі парафіяда для дзяцей і моладзі.**

■ **Алёна Фянько**, *тэкст і фота*

Варта адзначыць, што таварыства “Парафіяды св. Юзафа Каласанса” было заснаванае ў 1992 годзе айцом Юзафам Ёнецам, піярам, дзеля таго каб у сучасным свеце працягнуць справу выхавання дзяцей і моладзі згодна з правіламі, якія былі створаны 400 гадоў таму св. Юзафам Каласансам.

Уся дзейнасць таварыства скіраваная на тое, каб імкнуцца выхаваць дзяцей і моладзь згодна з парафіяльнай трыядай: “Спорт – Тэатр – Святыня”.

Безумоўна, парафіяда выклікала вялікі інтарэс і зацікаўленнасць сярод моладзі, таму да ўдзелу ў ёй прыехалі прадстаўнікі з Глыбокага, Мёраў, Лынтупаў, Браслава, Новалукомля, Варапаева, Лепеля, Дунілавіч, Відзаў. Прысутнічалі таксама і госці з Гродна. Узрост удзельнікаў вагаўся ад 12 да 17 гадоў.

За гэтыя тры дні моладзь не сумавала ні хвілінкі, бо праграма парафіяды была вельмі насычанай і складалася з такіх напрамкаў як:

■ Спорт (бег, басейн, скачкі ў даўжыню, футбол, валейбол, шашкі, шахматы, настольны тэніс);

■ Тэатр (дэманстрацыя візітнай карткі каманды-ўдзельніцы, мастацтва, конкурс рэлігійнай песні);

■ Святыня (тэставанне на тэму “Святыя Віцебскай зямлі”, малітва пяці пальцаў).

Падчас урачыстай святой Імшы, якой распачыналася парафіяда, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч у сваёй гаміліі звярнуў увагу на тое, што парафіяда – гэта вельмі добры час, калі мы маем магчымасць развіваць тое, што ў нас духоўнае і фізічнае. Ён таксама заклікаў усіх прысутных, каб падчас малітвы і спаборніцтваў найперш шукалі Бога.

Таму, прытрымліваючыся слоў біскупа, кожны дзень парафіяды ўдзельнікі пачыналі з ранішняй малітвы і святой Імшы.

## Збітыя калені і радасць перамогі

Памятаючы прадухоўнасць, між іншым, ніхто не забываўся пра спартыўны інтарэс і жаданне перамагчы. І тут варта прыгадаць напружаную, захапляльную і напоўненую жаданнем перамогі гульню ў футбол каманды з Варапаеўскай парафіі.

Нягледзячы на свае збітыя калені, хлопцы змаглі перамагчы ў гэтым спаборніцтве і тым самым атрымаць у якасці ўзнагароды кубак і магчымасць прадстаўляць гонар Віцебскай дыяцэзіі ў Варшаве.

Акрамя футбола, быў яшчэ і валейбол, па выніках якога прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам: першае месца занялі прадстаўнікі з Мёраў, другое атрымалі гульцы з Лынтупаў, а на трэцім – каманда з Лепеля.

Яшчэ адным яскравым момантам стала дэманстрацыя візітнай карткі камандудзельніц парафіяды. Усе выступленні былі цікавымі і вартымі перамогі, але журы вырашыла, што найбольш арыгінальнай атрымалася візітная картка моладзі





# моладзі: Віцебскай дыяцэзіі



Глыбоцкай парафіі, таму ёй і вырашылі аддаць першае месца.

Яшчэ два прызавыя месцы падзялілі паміж сабой адпаведна Лепель і Навасёлкі.

Безумоўна, удзельнікі парафіяды не змагаліся ў спаборніцтвах на працягу ўсяго дня. Яны мелі магчымасць лепш пазнаць Бога, пабыць сам-насам з Езусам у малітве і напоўніцца Духам Святым. Але ж не абышлося і без вясёлых, шумных танцаў, дзе ўсе яшчэ лепш змаглі пазнаёміцца адно з адным.

### Тэатр і мастацтва

Узгадваючы праграму парафіяды, варта адзначыць незвычайнае тэставанне на тэму "Святыя Віцебскай зямлі". З аднаго боку, яно было цікавым і захапляльным, а з другога – дастаткова складаным, бо ўключала ў сябе пытанні па гісторыі, жыцці святых і блаславлёных ды многае іншае.

Прыемна адзначыць, што ў гэтым нялёгкім выпрабаванні першае месца было аддадзена ўдзельніцы з Глыбоцкай парафіі – Дзіяне Сайкоўскай. Другое месца заняў Сяргей Грынкевіч з Варапаева, а трэцяе – Юля Рубанік з Мёраў.

У сваю чаргу прыгожым і нават падобным да казкі з'яўляўся конкурс рэлігійнай песні. Усе ўдзельнікі падышлі да яго з адказнасцю, падрыхтаваўшы не адну песню, а некалькі. А для музычнага суправаджэння нават запрасілі скрыпачоў, піяністаў і гітарыстаў. Увогуле, усё гэта і паспрыяла больш панікліваму ўспрыманню прыгожых спеваў конкурсантаў.

Нягледзячы на хваляванне, удзельнікі конкурсу змаглі годна заспяваць на хвалу Богу і на радасць шматлікіх слухачоў, якія сабраліся ў святыні, дзе ўсё гэта адбывалася.

Конкурс малюнка, каторы таксама быў запланаваны праграмай парафіяды, паспрыяў таму, што, нягледзячы на свой дастаткова сталы ўзрост, кожны з удзельнікаў апынуўся ў дзяцінстве з алоўкам у руцэ.

Хоць конкурс і быў абмежаваны тэмай "Анёл не такі слабы, як Яго малююць", фантазія і крэатыўнасць мастакоў не ведала межаў. Таму журы было вельмі складана абраць пераможцаў, бо выявілася шмат малюнкаў, вартых таго, каб іх адзначылі. Але ўсё ж такі па выніках конкурсу мы маем наступныя прызавыя месцы: першае было аддадзена ўдзельнікам з Лепеля, другое заняў прадстаўнік з Дунілавіч Ілля Бурак. Заўважым, што гэта адзіны хлопец сярод удзельнікаў конкурсу, які заняў прызавое месца і тым самым пераканаў амаль усіх у тым, што хлопцы умеюць маляваць, і нават анёлаў. І трэцяе месца атрымалі прадстаўнікі Новалукомля.

Мы шчыра віншуем яшчэ раз пераможцаў парафіяды, а таксама усіх удзельнікаў! Жадаем і надалей творчых поспехаў і крэатыўных ідэй!

Моладзь і дзеці ўдзячныя арганізатарам і апекунам парафіяды, ксяндзу Валерыю Орсіку, а таксама Кацярыне Салаўёвай за цудоўную магчымасць актыўна, цікава і весела правесці час разам.

Удзельнікі Першай парафіяды для дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі надоўга зберагуць у сэрцах успаміны пра насычаныя і спякотныя жнівеньскія дні і будуць з нецярплівасцю чакаць наступнай сустрэчы!

## Наша першая парафіяда

**Здаецца, яшчэ ўчора ў аб'явах пасля Святой Імшы ксёндз-пробашч прапаноўваў нам, моладзі і дзецям з парафіі Марыі Магдалены, што ў Новалукомлі, паўдзельнічаць у парафіядзе.**

Мы, разгубленыя, стаялі, гледзячы адно на аднаго, на сваіх бацькоў, на святара, не разумеючы да канца, што нам прапанавалі (бо да гэтага часу нават не чулі такога слова – «парафіяда»), але ужо гатовыя у адзін голас сказаць: «Так! Паедзем, безумоўна!». І гэта таму, што ўсё, што б ні арганізоўвалася і ні праводзілася нашым святаром, заўсёды было цікавым, карысным і выклікала толькі адно – захапленне.

А вось сёння мы ўжо ў мінулым удзельнікі гэтага цудоўнага мерапрыемства пад назвай «Парафіяда»! Прайшлі... Не, не прайшлі, а прамчаліся ў адно імгненне тыя незабыўныя дні. Колькі ўсяго было! Прыемныя і неспадзяваныя сустрэчы (адна з іх – з біскупам Алегам Буткевічам, які ў першы ж дзень прыехаў да нас), цікавыя знаёмствы, спартыўныя спаборніцтвы, розныя конкурсы... Тое, чым тут мы займаліся, было звычайным, але ў той жа час і нейкім асаблівым.

Мы з захапленнем услухоўваліся ў тое, што нам гаварылі, і ўвабіралі ў сябе кожнае прамоўленае святарамі слова. Мы далучыліся да той супольнасці каталіцкай моладзі нашай дыяцэзіі, якая насамрэч жыве з Богам у сэрцы і ўмее рабіць усё, праслаўляючы Усявышняга: і спяваць, і маляваць, і займацца спортам, і проста адпачываць...

Нам як самым малодшым удзельнікам парафіяды было вельмі прыемна, што нас не вылучалі, як «малых», а падтрымлівалі і давалі добрыя парады, вучылі, прапускалі наперад.

Дзякуй! Вялікі дзякуй усім, хто арганізаваў для нас гэту парафіяду і ў час яе правядзення быў побач з намі, дапамагаў, падтрымліваў. Гэта ксёндз Валерый Орсік, наш пробашч Аляксандр Баран, валанцёры, тыя, хто ацэньваў і судзіў наш удзел у спаборніцтвах і конкурсах, тыя, хто смачна карміў нас, і тыя, хто проста ўвесь час быў побач і з кім заўсёды было прыемна бавіць час.

Хочацца, каб такія мерапрыемствы сталі добрай традыцыяй у нашай дыяцэзіі, бо яны даюць нам, моладзі і дзецям, нейкі незвычайны зарад, сілу і моц, якія можна аб'яднаць адным словам – «ВЕРА». Мы атрымалі гэты зарад і з нецярпеннем чакаем наступнага лета, з такой жа незабыўнай парафіядай.

***Эвеліна Кашчэева,***
*парафія Марыі Магдалены,*
*г. Новалукомль*

# Хто такія

**Дарагія сябры, адгукаючыся на просьбы нашых чытачоў, мы пачынаем рубрыку “Катэхеза”, дзе будуць змяшчацца матэрыялы па каталіцкім веравучэнні. Рэдакцыя паспрабуе максімальна адаптаваць тэксты да ўзроўню чытачоў, якія слаба абазнаныя ў рэлігіі. А тыя з вас, хто добра ведае каталіцтва, змогуць абнавіць свае веды, чытаючы артыкулы з гэтай рубрыкі. Прыемнага чытання!**

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*





## Апостал Пётр

Святы Пётр быў галавой дванаццаці апосталаў. Цікава, што ён даведаўся пра Хрыста ад свайго брата Андрэя.

Аднойчы Пётр лавіў рыбу са сваім братам з бацькавай лодкі. Там яго сустрэў Езус і паклікаў за сабой. Святы Пётр пакінуў усё, што меў, і пайшоў за Хрыстом. Спадарожнічаючы Настаўніку, ён бачыў мноства неверагодных рэчаў. Езус аздаравіў цешчу Пятра, калі яна хварэла на гарачку. Пётр таксама быў сведкам уваскрашэння дачкі Яіра. Перамяненне Пана на гары Табор адбылося на вачах трох вучняў, адным з каторых быў апостал Пётр.

Мы ведаем і прыкрыя моманты з жыцця святога апостала. У ноч, калі Езус быў арыштаваны, Пётр ад Яго адрокся. Аднак ён так моцна пра гэта шкадаваў, што ў раскаянні шчыра заплакаў. І Езус яму прабачыў. Пасля свайго ўваскрашэння Настаўнік спытаўся тройчы ў Пятра, ці любіць той Яго. Такім чынам Збаўца даў шанс яму выправіць сваю памылку і зрабіў яго пастырам усяго Касцёла. Найбольшае сведчанне любові Пётр даў у Рыме, дзе прыняў мучаніцкую смерць на крыжы. У знак сваёй пакоры ён папрасіў катаў укрыжаваць яго ўніз галавой. Пётр лічыў сябе не вартым памерці такім самым чынам, як Езус. Літургічны ўспамін апостала Пятра адбываецца 29 чэрвеня.

## Апостал Андрэй

Андрэй быў братам апостала Пятра і таксама рыбаком. Новы Запавет перадае нам інфармацыю пра тое, што Андрэй стаў вучнем Хрыста нават раней за свайго брата. Спачатку ён быў паслядоўнікам святога Яна Хрысціцеля. Аднойчы прарок убачыў Езуса Хрыста і ўсклікнуў: “Гэта Баранак Божы”. Калі прамоўленыя словы пачуў Андрэй, ён пайшоў следам за Хрыстом і стаў Яго вучнем. Ён быў настолькі захоплены словамі і ўчынкамі Хрыста, што паспяшаўся распавесці пра Настаўніка свайму брату Пятру. Андрэй быў перакананы, што спаткаў Месію, гэта значыць, Збаўцу.

Сваю апостальскую дзейнасць апостал Андрэй праводзіў у краінах Усходу, дзе ён і ушаноўваецца асаблівым чынам. Святы Андрэй прыняў мучаніцкую смерць таксама на крыжы, як і ягоны брат, і як сам Настаўнік. Розніца толькі ў тым, што ён быў укрыжаваны на крыжы ў форме літары Х. Літургічны ўспамін апостала Андрэя адбываецца 30 лістапада.

## Апостал Якуб Старэйшы

Наогул мы ведаем двух апосталаў з імем Якуб. Аднаго называем Якубам Старэйшым, а другога – Якубам Малодшым. Якуб Старэйшы быў рыбаком, як Ян, ягоны брат, і Пётр з Андрэем. Гэтаксама, як і яны, ён пакінуў бацькоўскую лодку, сваю працу на возеры і пайшоў за Хрыстом. Насапраўднаму ён усё ж такі не закінуў сваю прафесію цалкам. А толькі крыху змяніў яе, бо стаў лаўцом людзей.

Апостал Якуб быў адным з трох вялікіх апосталаў. Чытаючы ўважліва Святое Пісанне, мы заўважым, што Езус у асабліва важныя мо-



манты сваёй місіі браў з сабой трох апосталаў: Пятра, Якуба і Яна. Яны былі побач з Хрыстом, калі Ён уваскрасіў дачку Яіра, калі Езус перамяніўся цудоўна на гары Табор, і калі Ён маліўся ў Садзе Аліўным пасля Апошняй Вячэры.

Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал Якуб Старэйшы прапаведаваў Божае слова ў Юдэі і Самарыі. Існуе паданне, што ён здзейсніў місійнае падарожжа аж у Іспанію. Якуб быў адным з першых мучанікаў Касцёла. Ён загінуў у 43 годзе, фактычна праз дзесяць гадоў ад часу заснавання Касцёла. Літургічны ўспамін апостала Якуба адбываецца 25 ліпеня.



## Апостал Ян

Многія з апосталаў мелі падвойныя імёны, штосьці кшталту нашых сённяшніх прозвішчаў. Так, напрыклад, Пётр называўся Скалой, два Якубы – адпаведна Старэйшы і Малодшы, а Тамаш меў імя Сумніўны. У апостала Яна было прозвішча Умілаваны.

Разам са сваім братам Якубам Ян быў рыбаком. Езус паклікаў яго пакінуць бацькаву лодку і пайсці за Ім. Як мы ўжо сказалі вышэй, у асабліва важныя моманты сваёй місіі Езус браў з сабой, апрача Пятра і Якуба, яшчэ і Яна Апостала. Падчас Апошняй Вячэры Ян сядзеў каля самога Хрыста і спытаў у Яго, хто Яму здрадзіць. Ян аказаўся самым смелым апосталам з дванаццаці, таму што ў ноч арышту Езуса не пабаяўся пайсці за Ім аж да Галгофы.

Мы ведаем, што Езус перад сваёй смерцю даверыў сваю Маці апосталу Яну. Касцельная традыцыя кажа, што Ян клапаціўся пра Марыю аж да Яе хвалебнага ўнебаўзяцця. Апостал Ян напісаў Евангелле, тры пасланні і кнігу Адкрыцця, або Апакаліпсісу. Яго саслалі на выспу Патмас за тое, што быў мужным вызнаўцам Хрыста. Літургічны ўспамін апостала Яна адбываецца 27 снежня.



## Апостал Філіп

Філіп быў адным з першых, каго паклікаў Езус. Ён проста сказаў яму: “Ідзі за Мной”. Філіп не толькі адгукнуўся на Божы заклік, але яшчэ і расказаў пра здарэнне свайму сябру Натанаэлю. Поўны ўзрушанасці, ён распавёў пра тое, як сустрэў Таго, пра Каго казалі Майсей і прарокі.

Вера Філіпа не заўсёды была ідэальнай. Калі Езус размножыў хлеб і рыбу так, што 5000 людзей змаглі насыціцца, перад гэтым Ён спытаў у Філіпа, што трэба зрабіць. Апостал яшчэ пакуль не разумеў усёй моцы, якой валодаў Езус, таму і адказаў, што нават заробку з двухсот дзён не хопіць, каб купіць ежы для такой колькасці людзей. Пазней Філіп паспрыяў таму, каб некаторыя грэкі маглі сустрэцца з Езусам і чуць Яго вучэнне. Яго вера ў Хрыста павялічвалася. І таму ён адважна накіраваўся абвяшчаць Божае Валадарства. У асноўным прапаведаваў на тэрыторыі сённяшняй Турцыі і памёр за веру каля 80 года. Літургічны ўспамін апостала Філіпа адбываецца 3 мая.

## Апостал Барталамей

Пра некаторых апосталаў мы ведаем зусім мала. Барталамей належыць да іх. Чытаючы Евангелле паводле Яна, мы можам заўважыць, што Барталамей з'яўляецца там пад іншым імем: Натанаэль. Як мы ўжо казалі вышэй, у часы Езуса Хрыста гэта было даволі папулярна – мець два імі. Так, напрыклад, Сымон



быў называны таксама Пятром, а Саул – Паўлам. Барталамея ж клікалі Натанаэль. Гэта Філіп, сябра Натанаэля, распавёў яму пра Езуса. Натанаэль усё сваё жыццё вывучаў правa і прарокаў. Яму было цяжка паверыць, што Езус – гэта Месія, пасланнік Божы. Езус паходзіў з Назарэта, беднага горада, у той час як Натанаэль быў перакананы, што Збаўца павінен быць багатым каралём.

Аднойчы Езус адкрыў Натанаэлю праўду пра Сябе, кажучы яму, што бачыў яго пад смакоўніцай. Гэта было месца, дзе зазвычай яўрэі вывучалі Біблію. Таму Езус сказаў Натанаэлю, што гэта якраз Ён з'яўляецца Месіяй, тым, пра Каго Натанаэль чытаў у Святым Пісанні. Езус паабяцаў Натанаэлю, што ён будзе сведкам вялікіх спраў.

Барталамей, або Натанаэль, прапаведаваў Божае слова ў Аравіі, Турцыі і Індыі. Ён памёр за веру ў Арменіі – дзяржаве, якая першая ў гісторыі чалавецтва стала хрысціянскай.

Літургічны ўспамін апостала Барталамея адбываецца 24 жніўня.



## Апостал Мацвей

Апостал Мацвей не падобны да іншых вучняў Хрыста. Ён не быў ні рыбаком, ні кніжнікам. Ён быў мытнікам. Трэба сказаць, што ў часы Хрыста яўрэі моцна ненавідзелі мытнікаў. Чаму? Таму што гэтыя людзі збіралі падаткі для рымлянаў – іх за-

# апосталы?

цятых ворагаў. Вельмі часта мытнікі падманвалі людзей, зарабляючы для сябе вялікія грошы. Вось чаму юдэі не хацелі мець ніякага дачынення з мытнікамі і пазбягалі ўсякіх кантактаў з імі, ужо не кажучы пра сумесны абед.

Аднак Езус паклікаў Мацвея-мытніка. Больш за тое, Ён нават увайшоў у ягоны дом, каб спажыць там ежу. Вядома, такі ўчынак Хрыста выклікаў вялікае незадавальненне сярод лідараў яўрэйскага народа. Як мог Настаўнік есці за адным сталом з мытнікам? Але Езус адказаў ім, што Ён прыйшоў якраз да тых людзей, якія патрабуюць аздараўлення.

Пазней Мацвей напіша Евангелле, дзе растлумачыць чытачу, чаму якраз Езус з'яўляецца Месіяй. Менавіта таму сваё Евангелле ён пачынае ад апісання радаводу Езуса Хрыста праз шматлікія пакаленні аж ад Абрагама. Касцельная традыцыя кажа нам, што апостал Мацвей вандраваў ажно да Эфіопіі, каб там прапаведаваць Божае слова. Ягоны ўспамін святкуецца Касцёлам 21 верасня.



## Апостал Тамаш

Не кожны чалавек можа сказаць, што мае моцную веру. Таксама было і з апосталам Тамашам. Аднойчы, калі Езус атрымаў вестку пра тое, што Яго сябра Лазар вельмі хворы і вырашыў пайсці ў Ерусалім, Тамаш сказаў, што ўсе вучні павінны выправіцца за Хрыстом і памерці за Яго. Але, на жаль, словы Тамаша былі толькі словамі. Ён разам з іншымі апосталамі ўцёк, калі Езуса схапілі і павялі на смерць. Пазней, калі Езус уваскрос і аб'явіўся вучням, Тамаша не было сярод іх.

Вучні расказалі Тамашу, што бачылі Хрыста, аднак, ён не хацеў паверыць ім. Тамаш сказаў, што толькі тады паверыць, калі зможа дакрануцца да ранаў Хрыстовых. Праз тыдзень Езус зноў аб'явіўся вучням і сказаў Тамашу, што той можа дакрануцца да Ягоных ранаў. Апостал адказаў: "Пан мой і Бог мой!"

Гэты выпадак выразна паказвае нам, што не ўсё мы можам зразумець, але нам трэба верыць. Апостал Тамаш прапаведаваў Евангелле ў Персіі і Індыі, дзе загінуў мучаніцкай смерцю. Касцёл успамінае св. Тамаша Апостала 3 ліпеня.



## Апостал Якуб Малодшы

Мы ведаем двух апосталаў па імені Якуб. Гаворка пра Якуба Старэйшага ішла ўжо вышэй. Кім жа быў Якуб Малодшы? Ён быў сваяком Езуса Хрыста і братам апостала Юды (і, магчыма, сваяком Сымона Руплівага).

Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал Якуб Малодшы стаў лідарам хрысціянскай супольнасці ў Ерусаліме. Пазней ён скіраваў сваё пасланне да вернікаў, дзе напісаў пра тое, як важна, каб вера не была мёртвай, але жывой. Дасягнуць гэтага можна, робячы добрыя ўчынкі паводле веры. Якуб таксама закранае ў сваім лісце тэму плётак і спакусаў, а таксама піша папярэджанне багацеям і разважае над моцай малітвы.

Апостал Якуб Малодшы памёр за веру ў Ерусаліме каля 42 года. Яго ўспамін у Касцёле адзначаецца 3 мая.



## Апостал Сымон Руплівы

У часы Хрыста ў Ізраілі была група яўрэяў, якая хацела змагацца за свабоду са зброяй у руках. Свой супраціў паўстанцы скіравалі супраць рымлянаў-акупантаў. Іх называлі за гэта "зелотамі", што азначае "руплівыя". Адзін з паўстанцаў стаў вучнем Хрыста. Гэта апостал Сымон Руплівы. Мы не ведаем шмат фактаў з яго біяграфіі, апрача таго, што ён быў сваяком Езуса, Якуба і Юды. Зелоты, як і шмат хто з простых ізраільцян, спадзяваліся, што Езус прыйшоў, каб вызваліць іх ад рымскага панавання. Аднак гэта было не так. Збаўца прыйшоў, каб запачаткаваць Валадарства не з гэтага свету. Магчыма, першым матывам Сымона, каб пайсці за Хрыстом, была ідэя адбудовы незалежнага Ізраіля. Аднак смерць Хрыста, Яго ўваскрасенне і спасланне Духа Святога навучылі апостала Сымона разуменню сапраўднай мэты Хрыстовага прыходу. Апостал Сымон Руплівы абвяшчаў Евангелле ў Аравіі і Персіі, дзе загінуў мучаніцкай смерцю. Яго Касцёл успамінае ў літургіі 28 кастрычніка.



## Апостал Юда Тадэвуш

Трэба прызнаць, што сёння апостал Юда Тадэвуш больш вядомы, чым тады, калі толькі пачынаў сваё служэнне. Юда быў братам Якуба Малодшага і, хутчэй за ўсё, сваяком Езуса і Сымона Руплівага. Адно з пасланняў Новага Запавету напісана якраз ім. Апостал перасцерагае вернікаў перад небяспекай новых ілжывых вучэнняў і заахвочвае іх трываць у сапраўднай Хрыстовай супольнасці. Юда Тадэвуш абвяшчаў Евангелле ў Аравіі разам з Сымонам Руплівым і загінуў разам з ім мучаніцкай смерцю ў Персіі. Сёння святы Юда Тадэвуш лічыцца заступнікам ў безнадзейных справах. Яго ўспамін у Касцёле адбываецца ў адзін дзень з апосталам Сымонам Руплівым – 28 кастрычніка.



## Апостал Юда Іскарыёт

Ён быў адным з дванаццаці. Але яго імя мы не знойдзем у каталіцкім календары. Касцёл не вызнае Юду Іскарыёта святым. Таму што ён здрадзіў Хрысту. У ноч пасля Апошняй вячэры за трыццаць сярэбранікаў ён прывёў ахову, каб жаўнеры маглі схапіць Езуса. Гэта адбылося ў Садзе Аліўным. Юда выдаў Збаўцу сваім пацалункам. Трагедыя Юды яшчэ і ў тым, што ён не раскаяўся ва ўчыненым, а пайшоў і павесіўся. Учынак гэтага апостала стаў прычынай таго, што яго імя стала намінальным і азначае "здраднік".



## Апостал Мацей

Пасля смерці Юды Іскарыёта засталося толькі адзінаццаць апосталаў. Яны сустрэліся ў тым самым пакоі, дзе спажывалі Апошнюю Вячэру са сваім Настаўнікам. Пётр як галава апосталаў сказаў, што неабходна выбраць новага апостала на месца Юды. Лічба дванаццаць мае глыбокае значэнне. Яна намякае на дванаццаць плямёнаў Ізраіля, якія ў сваю чаргу прысутнічаюць у Новым Ізраілі, што ўстанавіў Езус – гэта значыць, у Касцёле. І таму павінна быць дванаццаць апосталаў. Кандыдат на апостала мусіць адпавядаць важнаму крытэрыю. Гэта павінен быць чалавек, які ад часу дзейнасці Яна Хрысціцеля ведаў Хрыста і ішоў за Ім аж да моманту ўваскрашэння і ўнебаўшэсця. Знайшліся два кандыдаты: Юст і Мацей. Выбар апосталы даверылі Духу Святому. Пасля малітвы яны кінулі жэрабя, і быў абраны Мацей. Стаўшы апосталам, адным з дванаццаці, Мацей накіраваўся ў Юдэю, а затым у Эфіопію, дзе аддаў сваё жыццё за Хрыста. Апостала Мацея Касцёл успамінае 14 мая.



## Апостал Павел

Павел быў фактычна чатырнаццатым апосталам. Як гэта адбылося? Мы сказалі вышэй, што Езус выбраў дванаццаць апосталаў на ўзор дванаццаці плямёнаў Ізраіля, каб яны працягвалі Яго місію і былі будаўнікамі Касцёла – Новага Ізраіля. Але Павел быў перакананы, што быць апосталам – гэта значыць, быць сведкам жывога Хрыста, Які ўваскрос.

Павел ніколі не хадзіў з Хрыстом, як іншыя апосталы. Ён ніколі не быў пакліканы Месіяй падчас Яго зямнога прабывання. І ён нават быў варожа настаўлены да першых вызнаўцаў Хрыста. Менавіта на дарозе ў Дамаск (сённяшняя Сірыя), дзе Павел збіраўся арыштаваць хрысціянаў, яму аб'явіўся Езус і паклікаў стаць апосталам язычнікаў.

Гэта кардынальна змяніла ўсё яго жыццё. Ад гэтага часу Павел пачаў жыць толькі для Езуса і Добрай Навіны. Ён падарожнічаў па краінах Блізкага Усходу, быў у Грэцыі і Рыме. Паўсюль закладаў новыя хрысціянскія супольнасці і пісаў лісты да вернікаў. Шмат разоў быў арыштаваны, кінуты ў вязніцу і пабіты непрыяцелямі. А ў 67 годзе памёр мучаніцкай смерцю ў Рыме. Прыкладна ў той самы час, што і апостал Пётр. Ягоны дзень успаміну Касцёл адзначае 29 чэрвеня.

*Падрыхтаваў*
*кс. Віктар Місевіч*

# Што Касцёл кажа пра Меджугор'е?



*"Хвала Хрысту! Я хацеў бы атрымаць адказ, якая афіцыйная пазіцыя Святога Пасаду, Каталіцкага Касцёла ў Беларусі адносна з'яў у Меджугор'і. Я чытаў, што Ватыкан на дадзены момант не пацвердзіў гэтыя з'явы, і пакуль гэтага не адбудзецца, там нельга арганізоўваць афіцыйныя паломніцтвы. Адсюль пытанне: ці дазваляецца ў касцёлах вешаць абразы, ставіць фігуры Маці Божай з Меджугор'я? І ці маюць права святары гаварыць пра гэтыя з'явы падчас казання, што яны праўдзівыя?"*
*Андрэй*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Афіцыйная пазіцыя Касцёла адносна аб'яўленняў у Меджугор'і была прадстаўлена Канферэнцыяй Біскупаў Югаславіі ў 1991 годзе і пацверджана Кангрэгацыяй Веравучэння. У дэкларацыі 1991 года ("Дэкларацыя з Задара") сказана, што не пацверджаны звышнатуральны характар (non constat de supernaturalitate) таго, што адбываецца ў Меджугор'і. З гэтага вынікае, што адначасова нельга і выключыць звышнатуральны характар гэтай з'явы, інакш бы была ўжыта фармулёўка "пацверджаны нязвышнатуральны характар". Знакаміты тэолаг Кардынал Шонбарн падкрэсліў, што канчатковая ацэнка Касцёлам гэтай з'явы не будзе дадзена, пакуль яна трывае (інтэрв'ю 01.11.2004 года для «Tagespost»).

У Дэкларацыі 1991 года сказана пра немагчымасць арганізацыі афіцыйных пілігрымак у Меджугор'е, але вернікаў, якія туды прыбываюць, неабходна ахінуць духоўнай апекай. У 1996 годзе Кангрэгацыя Веравучэння пацвердзіла гэтую пазіцыю, а ў 1998 годзе Кангрэгацыя падкрэсліла, што ў Меджугор'е могуць арганізоўвацца прыватныя пілігрымкі пры умове, што іх нельга лічыць прызнаннем "аб'яўленняў". Нягледзячы на чуткі, якія распаўсюдзіліся нядаўна, асабліва ў італьянскай прэсе, Кангрэгацыя Веравучэння не выдавала ў гэтым годзе дакумента адносна Меджугор'я, але ён чакаецца ў блізкай будучыні. Нельга было б дапусціць, каб Касцёл у Беларусі меў іншую пазіцыю ў сувязі з гэтым.

Што датычыць іншых Вашых пытанняў, то святары могуць выказваць свае прыватныя меркаванні па закранутай праблеме, а Дзеву Марыю можна ўшаноўваць такім спосабам, які не супярэчыць веравучэнню Касцёла, напрыклад, прадстаўляючы яе на абразах.



# Ці можна прымаць Святую Камунію тройчы на дзень?

*"Хвала Хрысту! У мяне ўзнікла такое пытанне. Ці можна прымаць Святую Камунію тры разы за суткі? Падчас фэсту ў мястэчку Гудагай васямнаццатага ліпеня я прымала Камунію а дванаццатай гадзіне ночы, пасля на Імшы ранкам а палове на дзявятую. Ці можна яшчэ было прыняць Камунію ў дванаццаць (апоўдні)?"*
*Людміла*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Святую Камунію за адны суткі вернікам можна прымаць не больш за два разы. Пра гэта сказана ў каноне 917 "Кодэкса канінічнага права" 1983 года. У згаданым каноне ўжываецца тэрмін "дзень", каторы адпавядае прынятым у нашай мове "суткам", якія лічацца ад апоўначы і маюць 24 гадзіны (канон 202). Таму прымаць Камунію тройчы за суткі нельга.

Пры першым і другім прыняцці павінны быць выкананы ўсе ўмовы, звязаныя са святой Камуніяй: не мець цяжкага граху, не менш за гадзіну нічога не есці і не піць, апрача вады і лекаў (эўхарыстычны пост не датычыць цяжкахворых, састарэлых асоб і тых, хто імі апякуецца; а таксама святароў, якія цэлебруюць другую і трэцюю Імшу за дзень). Першы раз за суткі Камунію можна прыняць нават па-за Імшой, калі на гэта ёсць важныя прычыны, а другі раз – толькі ўдзельнічаючы ў Імшы. Асобам, жыццё якіх пастаянна знаходзіцца пад пагрозай, настойліва рэкамендуецца яшчэ раз прыняць святую Камунію, нават калі яны яе ўжо прымалі ў той самы дзень.

Само па сабе множанне колькасці разоў прыняцця Камуніі не мае ніякага духоўнага плёну, наадварот, можа сведчыць пра павярхоўнае стаўленне да прыняцця Цела (і Крыві) Хрыста. Нягледзячы на тое, колькі разоў мы прымаем Камунію за дзень, мы прымаем усяго Хрыста.

# Хачу ўступіць у кармелітанскі ордэн. Што патрэбна зрабіць?

*"Хвала Хрысту! Я хачу ўступіць у кляштар і адчуваю вялікую прыхільнасць да духоўнасці Кармелю. Але я не ўпэўнена, што ўступлю менавіта ў кармелітанскі ордэн. Ці магу я прыняць шкаплер і ўступіць у які-небудзь іншы ордэн? Ці трэба выбраць штосьці адно? Буду вельмі ўдзячная за адказ".*
*Марыя Белая*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Паважаная Марыя! Выбар жыццёвай дарогі – гэта складанае і важнае пытанне, ад якога залежыць не толькі зямное, але і вечнае шчасце. Манаскае жыццё – гэта адказ на Божае пакліканне. Неабходна заўсёды памятаць, што менавіта Бог ёсць Панам жніва, і Ён сам кліча і выбірае каго захоча, калі захоча і такім чынам, якім захоча. Незалежна ад таго, да якой манаскай супольнасці маладая асоба адчувае пакліканне, яго аўтарам заўсёды з'яўляецца Бог. Пакліканне да манаскага жыцця, падобна як і да святарства, успрымаем як таямніцу сустрэчы двух свабодных асобаў: Бога, Які кліча, і чалавека, які адказвае.

Кармелітанскі шкаплер – гэта адзін з сакраманталіяў Касцёла, роля якога заключаецца ў асвячэнні розных жыццёвых акалічнасцяў чалавека ці падрыхтоўка вернікаў да прыняцця асвячальнай ласкі. Шкаплер звязаны з кармелітанскім ордэнам, аднак прыняцце яго не вядзе да фармальнага далучэння да манаскай супольнасці кармелітак ці кармелітаў. Прыняць шкаплер можа кожны вернік Каталіцкага Касцёла, у тым ліку святары ці кансэкраваныя асобы, якія належаць да розных інстытутаў. Кожны, хто надзявае святы шкаплер, далучаецца да Марыйнай пабожнасці Кармелю, атрымлівае ўдзел ва ўсіх духоўных плёнах малітвы і жыцця кармеліцкай сям'і. Заданні, звязаныя з прыняццем шкаплера – верная малітва, сузіранне Бога, служэнне братам па прыкладзе Марыі ды іншыя – можна рэалізаваць рознымі спосабамі, згодна са станам свайго жыцця.

Прыняцце кармеліцкага шкаплера ніяк не перашкаджае ў свабодным выбары жыццёвай дарогі, а наадварот, можа дапамагчы прыняць правільнае рашэнне. Удзел у духоўных дабротах шкаплернай сям'і, асабістая малітва, падтрымка мясцовай супольнасці, духоўнае кіраўніцтва ці дапамога з боку аўтарытэтных людзей паспрыяюць адкрыццю асабістага паклікання і вернаму выкананню Божай волі. Калі Вы, паважаная Марыя, адчуваеце прыхільнасць да кармеліцкай духоўнасці, то пазнавайце яе яшчэ глыбей, уваходзячы ў спадчыну яе класікаў – Тэрэзы ад Езуса, 500-годдзе народзінаў якой адзначаем сёлета, ды Яна ад Крыжа, не адмаўляючыся ў сваіх пошуках ад іншых духоўнасцяў. Жадаю Вам, каб Дух Святы дапамог у выбары! Падтрымліваю малітваю!

# Ці можна зрабіць татуіроўку з надпісам "Езус"?

*"Слава Ісусу Хрысту! Хачу зрабіць татуіроўку з надпісам "Езус" па-габрэйску (עושי) каля сэрца ў намеры пасвячэння свайго жыцця Збаўцу. Як ставіцца Касцёл да падобных учынкаў?"*
*Сяргей*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Прысвячэнне свайго жыцця Збаўцу адбываецца ў сакраманце хросту. Кожны ахрышчаны чалавек аддадзены Богу. Як сцвярджае "Катэхізіс Каталіцкага Касцёла", "ахрышчаны належыць Таму, Хто памёр і ўваскрос за нас" (ККК 1269).

Больш глыбокім аддannем сябе Богу з'яўляецца следаванне за евангельскімі радамі чысціні, убоства і паслушэнства ў богапасвечаным стане. "Дзявоцтва дзеля Валадарства Нябеснага ёсць развіццём ласкі хросту, магутным знакам перавагі сувязі з Хрыстом у палымяным чаканні Яго вяртання" (ККК 1619).

Толькі гэтыя два спосабы прысвячэння жыцця Богу вызнаюцца і практыкуюцца Касцёлам: сакрамант хросту і богапасвечаны (манаскі) стан.

Адносна татуявання Касцёл не мае пэўнай афіцыйнай пазіцыі, бо гэта сфера асабістага рашэння чалавека, калі яна не датычыць веры (напрыклад, татуіроўка як магічны знак) або маралі (напрыклад, дэманстрацыя расавай, нацыянальнай і пад. дыскрымінацыі). У Вашым выпадку няма маральнай перашкоды для таго, каб зрабіць дадзенае татуяванне, але і заахвочвання з боку Касцёла на гэта таксама няма.

עושי

# Ці можна карыстацца несумленна атрыманым дыпломам?



*"Хвала Хрысту! Амаль усе дарослыя скончылі школу, атрымалі вышэйшую ці сярэднюю адукацыю. Але, на жаль, большасць людзей атрымала гэтую адукацыю несумленна, ужываючы сродкі падману (шпаргалкі, занядбанне і да т.п.). Да такіх людзей належу і я сам. Цяпер я працую, атрымліваю грошы, выкарыстоўваючы дыплом, які атрымаў нядобрасумленна. Ці маю я права з хрысціянскага пункту гледжання карыстацца тым, чаго не заслужыў?"*

*Аляксей*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Кожны чалавек атрымлівае ад Бога розныя дары, дзякуючы якім можа Яго праслаўляць, служыць бліжнім, а таксама развіваць самога сябе. Менавіта імкненне да развіцця глыбока ўкаранёнае ў прыродзе чалавечай асобы, якая ўжо з дзяцінства прагне пазнаваць тое, што вакол яе. Гэта натуральная схільнасць пацвярджаецца таксама самім Богам, Які, ствараючы чалавека паводле свайго вобраза, аб'явіў яму сваю волю, даў "наказ кіраваць светам у справядлівасці і святасці, падпарадкоўваючы сабе зямлю з усім, што на ёй ёсць, а таксама прызнаючы Бога Стваральнікам усяго, суадносіць з Ім сябе самога і ўсе рэчы, каб праз падпарадкаванасць чалавеку ўсяго Божае імя было цудоўным па ўсёй зямлі" (Другі Ватыканскі Сабор, "Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце", 34).

Таленты і здольнасці чалавека, а таксама дасягненні чалавецтва – гэта праявы Божай велічы і плён Яго невыказнага намеру (пар. Тамсама, 33). Хрысціянскае вучэнне абавязвае рупліва выконваць добрыя справы і свае абавязкі. З Евангелля ведаем прыпавесць пра таленты, якую Езус расказаў жыхарам Ерусаліма (пар. Мц 25, 14 – 30). Калі праз аналогію аднесці гэтую прыпавесць да натуральных здольнасцей, дароў, талентаў, якія кожны чалавек атрымаў ад Бога, то неабходна сцвердзіць, што чалавечая асоба падобна да евангельскіх слугаў, якія атрымалі капітал дзеля яго павелічэння. Слугі карыстаюцца дараваным, даверанным, а не сваім! Іх заданне – памнажаць атрыманае. Тут можам казаць пра сумленнасць і працавітасць чалавека. Агульнавядома, што недастаткова мець нейкія здольнасці, але дзеля гарманічнага развіцця неабходна супрацоўнічаць з Божай ласкай таксама ў сферы агульначалавечых магчымасцей, г. зн. трэба іх развіваць.

Кожны чалавек атрымаў ад Бога сумленне, у глыбіні якога "адкрывае закон, які не сам ён устанавіў, але якому павінен падпарадкоўвацца і голас якога, што кліча яго заўжды там, дзе неабходна, павінен любіць і рабіць дабро, а зла пазбягаць" (Тамсама, 16). Менавіта правільна сфарміраванае сумленне, якое абапіраецца на Бога, можа дапамагчы чалавеку на працягу ўсяго жыцця пастаянна развівацца згодна з Божай воляй, дзеля асабістага шчасця і на карысць іншым. Чалавек, які паступае згодна з праведным сумленнем – сапраўды свабодны і робіць усялякае дабро таму, што так хоча, а не таму, што да гэтага прымушаны.

### Вучымся не дзеля школы, а дзеля жыцця

Аўтар пытання закранае вельмі важную сферу жыцця чалавека – перыяд развіцця, звязаны са здабываннем ведаў і прафесій. Агульнавядомае лацінскае выказванне Non scholae, sed vitae discimus (вучымся не дзеля школы, а дзеля жыцця) паказвае мэту вучэння, якое павінна служыць чалавеку ўсё жыццё. На жаль, чалавечая натура схільная не толькі да дабра, і не заўсёды атрымліваецца трымацца абранага шляху праведнасці, што ў сваю чаргу прыводзіць да граху, маральная катэгорыя якога залежыць ад матэрыі чыну, стану свядомасці і свабоды чалавека. Аднак, незалежна ад узросту асобы, несумленнасць у школе ці ВНУ (падобна як і ў працы), ашуканства, падман, у тым ліку выкарыстанне шпаргалак, спісванне (таксама з інтэрнэту) з'яўляецца грахом, які раніць Бога, бліжніх ды самога чалавека.

> **"Несумленнасць і абыякавасць у здабыванні ведаў звязана часта з грахом ляноты, а таксама нявернасцю сваім абавязкам"**

Нескладана ўявіць, да чаго магла б прывесці адсутнасць неабходных тэарэтычных ці практычных ведаў у выпадку адказных за жыццё і здароўе іншых медыкаў, настаўнікаў, работнікаў спажывецкай вытворчасці або аператараў розных відаў машын. Несумленнасць і абыякавасць у здабыванні ведаў звязана часта з грахом ляноты, а таксама нявернасцю сваім абавязкам. Можна часам пачуць апраўданне несумленнасці ў гэтай сферы нязначнасцю ўчынку. Аднак нельга забываць, што малое занядбанне, якое часта паўтараецца, вядзе да граху, каторы можа стаць прычынай іншых цяжкіх грахоў і знішчае сумленне. Езус вельмі выразна сказаў: "Верны ў малым і ў вялікім верны, а несправядлівы ў малым несправядлівы і ў вялікім" (Лк 16, 10).

### Як выправіць шкоду з мінулага?

Пытанне, якое разглядаем, закранае таксама цноту справядлівасці, што вызначае жыццю чалавека адпаведны напрамак і дапамагае жыць разам з іншымі людзьмі ў праўдзе і згоднага з ёю вырашаць шматлікія маральныя праблемы. Несправядлівасць патрабуе выпраўлення. Пры разглядзе граху заўсёды трэба браць пад увагу маральны стан чалавека, матэрыю і акалічнасці чыну. Магчыма, што чалавек не ўсвядоміў зло, якое рабіў, знаходзячыся пад дрэнным уплывам іншых ці кіраваўся толькі меркантыльнымі памкненнямі. У мінулым здаралася і так, што хтосьці "купляў" дыплом або нейкае пасведчанне дзеля лепшай працы ці пасады. Такія ўчынкі – вялікая несправядлівасць, якую можна прыраўняць да крадзяжу. Вернік, які з цягам часу ўсведамляе зло сваіх мінулых паводзін, добра зробіць, калі вызнае на споведзі ўчыненае і папросіць парады святара, як выправіць грэх.

Маральная тэалогія вучыць, што незаўсёды магчымае поўнае і непасрэднае выпраўленне прычыненай шкоды. У нашым выпадку ідзе гаворка пра несправядлівасць адносна бліжніх ці дзяржавы – нашага агульнага дабра. Існуе магчымасць замennenga выпраўлення, напрыклад, праз ахвяраванне часткі заробленых грошай на патрэбы дабрачынных арганізацый, удзел у дапамозе тым, хто мае

> **"Куплянне дыплому – вялікая несправядлівасць, якую можна прыраўняць да крадзяжу"**

патрэбу, ці нешта падобнае. Безумоўна, адным з элементаў выпраўлення мінулых дрэнных учынкаў, пра якія тут гаворыцца, ёсць сумленнасць у працы і выкананні сваіх абавязкаў, добры прыклад маладому пакаленню ці малітва за бліжніх.

На заканчэнне варта дадаць, што мінулае ў нейкай, часам значнай ступені фарміруе нашу будучыню, аднак не дэтэрмінуе яе. Вернік, памятаючы пра мінулае, з Божай дапамогай сваім "сёння" творыць сваю будучыню, часам цалкам іншую, чым ранейшае жыццё. Застаецца маліць Бога аб ласцы пастаяннага навяртання і чыстым, праведным сумленні як для сябе, так і для бліжніх.

# Як павінна быць па-беларуску: пайсці за вадой ці пайсці па ваду?

**У сучаснай моўнай практыцы, як вуснай, так і пісьмовай, досыць часта сустрэць канструкцыі кшталту *пайсці за вадой, паехаць за бульбай, выправіць за доктарам* і г.д.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Паводле падобнай схемы традыцыйна будуецца аналагічныя словазлучэнні ў рускай мове: *дзеяслоў + прыназоўнік* ***за*** *+ назоўнік у творным склоне*. Для нашай жа мовы гэта ёсць не што іншае, як звычайнае калькаванне, пераймание чужой сінтаксічнай мадэлі. Вядомы айчынны пісьменнік, выдатны знаўца беларускага слова Кастусь Цвірка пісаў, што "беларускую літаратурную мову трэба сёння лячыць, лячыць ад... кароcты шматвяковай русіфікацыі, ад суцэльнага калькавання, вызваляць з-пад чужой ёй структуры" ("Літаратура і мастацтва", 12. 03. 1993).

І было б яшчэ паўбяды, калі б з падобнымі ўжываннямі мы сутыкаліся толькі ў вусным маўленні на побытавым узроўні. Але ж названая схема фіксуецца і ў словазлучэннях, што выкарыстоўваюцца на старонках газет. Як рэгіянальных, так і цэнтральных. Напрыклад: ***За прафесіяй*** *– у Полацкі ўніверсітэт* (Загаловак. "Веснік Глыбоччыны", 16.03.11); ***За дзічынай*** *– з арбалетам* (Загаловак "Звязда, 29.09.11); *Выбірайце сабе занятак па душы і айда* ***за здароўем*** *і прыгажосцю ў фітнэс-клубы* ("Наша ніва", 26.10.11); *А лучынскія ж прадавачкі* ***за словам*** *у кішэню не лезуць* ("Звязда", 10.01.12); *Далёка* ***за прыкладам*** *хадзіць не патрэбна* ("Наша ніва", 2.11.11); *На Гродзеншчыну –* ***за натхненнем*** (Загаловак "Звязда", 19.05.12); *Вось гэта ўсё і прымусіла мяне звярнуцца...* ***за дапамогай*** ("Народная воля", 16.11.12). Ва ўсіх прыведзеных кантэкстах дапушчана грубая памылка ў будове словазлучэння. Правіла нам гаворыць, што пры абазначэнні мэты дзеяння ў беларускай мове ўтвараецца словазлучэнне *дзеяслоў + прыназоўнік* ***па*** *+ вінавальны склон назоўніка ці займенніка*. Таму ў згаданых вышэй фрагментах павінна было б быць: **па прафесію, па дзічыну, па здароўе, па слова, па прыклад, па натхненне, па дапамогу.**

Граматыка дапускае выключэнне, калі гаворка ідзе пра намер выправіцца, напрыклад, у лес, каб там назбіраць грыбоў ці ягад. Гэта значыць, **пайсці ў грыбы, у ягады, у чарніцы, у суніцы** і г.д.

Такім чынам, адказваючы на пастаўленае ў загалоўку пытанне, варта памятаць, што правільна па-беларуску будзе *не пайсці за вадой*, а **пайсці па ваду**.

# Дети выросли, что дальше?
## или Разговор о «синдроме опустевшего гнезда»

**Не так давно я разговаривала с одной женщиной, которая этим летом выдала свою дочь замуж. Казалось бы, нужно радоваться этому замечательному событию, но женщина была очень расстроена тем, что ее любимая дочь ушла из семьи, оставила их...**

■ **Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*



На протяжении всего разговора она неоднократно говорила о том, что не знает, как теперь жить дальше.

Именно этот разговор подтолкнул меня к тому, чтобы поговорить о кризисе ухода взрослых детей из семьи или, как часто психологи именуют его, о «синдроме опустевшего гнезда».

### Когда может появиться «синдром опустевшего гнезда»?

Такой психологический кризис переживают родители, которые отправили своих детей на учебу или на работу в другой город. Такой же синдром переживают родители, которым больше некого опекать: сын женился, дочь вышла замуж или они просто переехали.

Некоторые исследования показали, что на данный «синдром опустевшего гнезда» родители реагируют поразному. Чаще всего они испытывают чувство горя и потери (что и произошло с женщиной, с которой у меня был разговор). Этим чувствам подвержены не только женщины, но и мужчины, просто они более сдержанны в проявлении своих чувств.

Стоит сразу отметить, что это необязательное явление. Многие родители переживают уход детей из дома спокойно. Может быть, им и грустно, но они осознают, что сам по себе этот этап неизбежен. Именно такой философии мы все и должны придерживаться: когда наступает время перемен, им нужно открыться и их нужно принять, иначе перемены все равно наступят, а вам будет тяжело с ними смириться.

Обычно «синдром опустевшего гнезда» затрагивает людей в возрасте от 38 до 45 лет – как раз в то время, когда человек переживает «кризис среднего возраста», для которого характерны переоценка жизненных ценностей и наплыв сомнений в правильности жизненного курса. Освобождение от родительских обязанностей может вызывать депрессию и отсутствие будущего.

> **«Обычно «синдром опустевшего гнезда» затрагивает людей в возрасте от 38 до 45 лет – как раз в то время, когда человек переживает «кризис среднего возраста»»**

В это время в организме женщины проявляются первые признаки возрастных изменений, появляется страх надвигающейся старости. Это служит благодатной почвой для роста неуверенности в себе, переживания страха собственной ненужности и ощущения потери смысла жизни.

Карин Рубинштейн, доктор философии, утверждает, что 10% матерей очень сильно переживают уход детей, и это состояние может быть у них в течение довольно долгого времени. Особенно тяжело приходится тем матерям, которые активно участвовали в жизни своего ребенка. Нередки случаи, когда матери продолжают серьезно вмешиваться в жизнь детей даже после их ухода из дома.

Обратите внимание, что очень часто своим унылым, а иногда и скорбящим настроением и даже поведением Вы вселяете своим взрослым детям определенное чувство вины. Да-да, именно вины! Вины за то, что они вас оставили, за то, что они могут быть счастливы без вас...

И вместо того, чтобы выстраивать нормальные, счастливые взаимоотношения, любить и быть любимыми, ваши дети вынуждены метаться между вами и своей семьей. Нередко это приводит к конфликтам в молодой семье, а иногда дело доходит и до развода.

### Несколько советов

Возникает резонный вопрос: как тогда принять подобную ситуацию и не нанести вред ни себе, ни, конечно же, своим детям, которых вы очень любите?

В первую очередь, примите тот факт, что грустить иногда о своем ребенке – это вполне нормально. Здесь главное – не утратить интерес к жизни. Не стоит трактовать ребенка как вещь, которую можно иметь или не иметь. Детей надо воспринимать как личностей, с их достоинством и правом жить своей жизнью.

Если раньше вы жили для своих детей, то теперь можно пожить и для себя.

Сколько бы лет вам ни было, перед вами открываются прекрасные возможности для реализации собственных планов и желаний. Если есть возможность, можно заняться своей карьерой или найти интересное увлечение. Вспомнить о давно забытом хобби. Сейчас существует много возможностей для разных увлечений. Для этого нужно иметь только одно – желание.

Можно, наконец, заняться своим здоровьем, самоусовершенствованием, читать соответствующую литературу, таким образом, готовиться к новой части жизни, учась мудрости у других.

То, как вы организуете свою жизнь в этот период, полностью зависит от вас. Необходимо заново выстроить свою собственную жизнь с новыми правилами и границами, а также новые отношения со своими взрослыми детьми, уважая их право жить так, как они хотят.

Посмотрите на свою жизнь под другим углом. Вы благодаря своим трудам и бессонным ночам вырастили своего ребенка. Чем это не повод гордиться собой? Вы в полной мере реализовали себя в качестве матери или отца, и перед тем, как примерить на себя образ бабушки/дедушки, возьмите небольшую паузу, чтобы пожить для себя.

Сейчас вы находитесь в возрасте зрелого интеллекта, приобретенного жизненного опыта, еще достаточно крепкого здоровья, в возрасте для самореализации и удовлетворения своих интересов и увлечений.

### Что делать одиноким родителям?

Особенно хотелось бы поговорить о так называемых одиноких родителях. Как им справиться с данной ситуацией?

Одинокому родителю пережить отъезд/уход ребенка намного тяжелее. У таких людей особенно сильна потребность компенсации. Они могут продолжать «цепляться» за взрослое чадо, стремясь всячески участвовать в его жизни. Нужны немалые воля, любовь к ребенку и самоконтроль, чтобы не создать себе из дочери или сына «психологического супруга», «развод» с которым окажется не под силу.

Легче с проблемой справляются те, кто вел и ведет активную социальную жизнь, имеет друзей и подруг, увлечения. Им легче удается «перенос акцентов». Однако общий подход остается тем же самым: дети – не вещь, и мы должны уважать их право на взросление и самостоятельную жизнь.

> **«Нужны немалые воля, любовь к ребенку и самоконтроль, чтобы не создать себе из дочери или сына «психологического супруга»»**

В ситуации ухода взрослых детей из семьи важно видеть не ограничения, а открывающиеся перед вами возможности и перспективы, которые дают жизненный опыт и приобретенный социальный статус.

Чем больше у вас впереди профессиональных и личных планов и возможностей для развития, тем безболезненнее и конструктивнее вы переживете «синдром опустевшего гнезда».

Многие люди в это время, вырастив детей, открыли свое дело, стали заниматься научной работой или преподавать, занялись общественной деятельностью, стали путешествовать, нашли для себя новые хобби и увлечения, развили свои художественные способности.

Помните, что сколько ни было бы вашим детям лет, как бы далеко они от вас ни находились, они навсегда останутся вашими детьми, которые любят и ценят вас. От вас требуется не так и много: просто позвольте друг другу быть счастливыми и строить свою жизнь самостоятельно.

Смотрите на будущее не как на пустое, ничем не заполненное время, а как на неизведанный, не открытый прежде путь.

Если угодно, можете считать, что вы прожили одну часть жизни и впереди еще одна! И эта часть недостойна того, чтобы вы заполнили её грустью, унынием и печалью, пусть даже и по любимым детям.

Учитесь получать удовольствие от возможности пожить для себя.

---

### Памятаем і віншуем!

*16 жніўня адзначае Дзень свайго нараджэння* ***ксёндз Генадзь Рэйшэль.***

*Толькі два гады мы мелі вялікую радасць маліцца і працаваць з шаноўным ксяндзом Генадзем. За гэты кароценькі час палюбілі яго як цудоўнага святара, што дзяліўся з намі сваім шчасцем святарства, цяплом і святлом Божай Міласэрнасці. Верай і Праўдай у вялікім цярпенні і пакоры выконваў сваё пакліканне.*

*Вельмі сумуем, просім прабачэння за нашу слабасць і недасканаласць. Молімся ў Апостальскім руху "Маргарытка" такімі словамі: "Марыя, сцеражы святара Генадзя ад усялякага зла".*

*Паважаны ксёндз Генадзь! Прыміце ў падарунак нашы шчырыя вершаваныя радкі:*

*Здароўя моцнага, апекі Божай Маці,*
*Дароў Святога Духа, новых планаў!*
*А Ваша годнасць, дабрыня і святасць –*
*Найлепшы прыклад для парафіянаў!*



*Мы любім Вас, глыбока паважаем*
*І цэнім Ваша шчырае служэнне.*
*Ўсяго-ўсяго найлепшага жадаем!*
*Хай светлым будзе Ваш Дзень нараджэння!*

***Удзячныя вернікі касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, в. Параф'янава***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**30 жніўня 2015 г. Мк 7,1-8; 14-15; 21-23**

Вера – гэта не толькі традыцыі, культура і пачуцці. Асноўнае ў веры – гэта Бог, Які да нас звяртаецца. Мы карыстаемся вызначанай мовай, нарадзіліся ў вызначаным народзе, ведаем сваю культуру і гісторыю. А яшчэ мы пакліканы будаваць еднасць з Богам. Бог хоча распрасцерці Сваё валадаранне ў сэрцы кожнага з нас. Мы выкарыстоўваем свае звычаі, традыцыі, мову, каб праслаўляць Бога, каб дзякаваць Яму, каб праяўляць нашу любоў. Мы не можам больш цаніць звычаі, чым Бога і Яго волю. Не можам, крывадушна паважаючы традыцыі, пагарджаць Божай воляй. Бог не стопча таго, што добра і важна для нас.

*– Як пабудавана лесвіца каштоўнасцяў у маім сэрцы?*

*– Ці ведаю, што Бог павінен быць першым сярод маіх каштоўнасцяў?*

*– Ці цаню дадзены мне Богам народ, сярод якога я нарадзіўся, культуру, гісторыю і мову, на якой прамаўляю да Бога?*

*– Ці не затрымліваюся ў духоўных справах на павярхоўным?*

*– Ці разумею, што духоўнасць – гэта адкрыццё свайго сэрца на дзеянне Божага духа, пазбяганне ўсяго дрэннага ў маім сэрцы і выкананне Божай волі ўсім сэрцам?*

*– Ці перамяняе паслухмянасць Богу і Яго волі мяне, мае звычаі і традыцыі маёй сям'і?*

*– А можа, упарта трымаюся бязбожных традыцый?*

*– А можа, больш цаню чалавечыя звычаі, чым Божую мудрасць?*

*– А можа, крывадушна жыву так, як мне зручна, абгрунтоўваючы гэта ілжывай традыцыяй?*

**6 верасня 2015 г. Мк 7, 31-37**

Чаканы Месія, паводле прарока Ісаі, будзе аздараўляць. Гэта і будзе знак, што прыйшоў Ён. Езус паказвае цудоўныя знакі, аздараўляе хворых. Адначасова пазбягае сенсацый, якія перашкаджаюць убачыць сутнасць Яго місіі. Ён – чаканы Збаўца. Яго аздараўленне глуханямога з'яўляецца знакам, што пачаліся місіянскія часы. Езус мае моц развязаць путы, мае моц сказаць чалавеку "адкрыйся" і Яго слова адкрывае.

*– Ці патрэбны мне Збаўца?*

*– Ці разумею я і ці цаню тое, што Езус мяне ацаліў?*

*– Ці бачу, што Яго збаўчая місія датычыць мяне вельмі канкрэтна?*

*– Ці бачу, што Ён развязаў мае путы?*

*– Ці цаню, што дзякуючы Яму я вызвалены з путаў смерці і маю абяцанне неба?*

*– Ці цаню адвяванае для мяне Езусам адпушчэнне грахоў?*

*– Ці адкрыўся я на новае жыццё?*

*– Ці прашу Езуса штодзённа дапамагаць мне змагацца з тым, што робіць мяне старым чалавекам – нявольнікам смерці і грэху?*

**13 верасня 2015 г. Мк 8, 27-35**

Бог – гэта Таямніца, якая перарастае наша чалавечае разуменне. Дзякуючы дарам Святога Духа атрымліваем ад Бога Мудрасць, каб пачуць, што Бог нам аб'яўляе і зразумець гэта. Бог нам аб'яўляе сваю волю, Самога Сябе так, як хоча, і тады, калі хоча. Ён ведае нашу абмежаванасць і Ён нас выхоўвае, каб мы маглі зразумець, што Ён нам аб'явіў і да чаго нас запрашае. Святы Пётр карыстаецца Божай ласкай і разумее, што Езус – гэта чаканы Месія, Збаўца. Аднак калі Езус хоча ўдакладніць, што збіраецца рабіць і якой дарогай пойдзе, Пётр прымае гэта з цяжкасцю. Ён хоча навязаць сваё чалавечае думанне Богу. Хоча спакусіць Яго і адвесці ад дарогі выканання Божай волі. Для таго, каб прыняць план крыжовай дарогі, Пятру давялося яшчэ адзін раз схіліць сваю мудрасць перад Божай мудрасцю. Ведаем, што не заўсёды ён рабіў гэта адразу.

*– Ці разумею, што мае адносіны з Богам – гэта адносіны з бясконца мудрым Стваральнікам усяго?*

*– Ці разумею, што Ён робіць мне ласку, адорваючы дарамі Святога Духа і раскрываючы перада мной Свае вялікія справы?*

*– Ці разумею, што ў адносінах з Богам Ён – Мудры?*

*– Ці стараюся зразумець, што Ён мне аб'яўляе?*

*– Ці шукаю ў Яго сілы і разумення ў справах, пра якія Ён гаворыць і якія мяне перарастаюць?*

*– Ці разумею, што Бог вядзе мяне дарогай развіцця?*

*– Ці гатовы я разам з Ім да канца жыцця адкрываць новыя прасторы?*

*– Ці з даверам стаўлюся да Яго мудрасці?*

*– Ці памятаю, што Бог і Яго планы для мяне добрыя?*

*– Ці памятаю, што Бог, іншыя людзі, а таксама я сам – гэта таямніца, якую разумее толькі Бог?*

*– Ці памятаю ў штодзённых справах і рашэннях пра Божую мудрасць і волю?*

**20 верасня 2015 г. Мк 9, 30-37**

Езус паглыбляе духоўную фармацыю сваіх вучняў. Адкрывае перад імі таямніцу Сваёй смерці і змёртвыхпаўстання. Хутчэй за ўсё страх паказаць сваю недасканаласць перашкодзіў ім цалкам карыстацца мудрасцю Настаўніка. Езус бачыў, што ўзровень адносінаў паміж апосталамі і іх думкі вельмі свецкія і таму Сам загаварыў, аб чым спрачаліся. Растлумачыў ім прынцыпы адносін, якія хацеў бы бачыць сярод іх – сваіх вучняў. Езус вучыць іх любові. Безумоўна, пакуль дойдуць да ўзроўню любові паводле Езуса пройдзе час. Ён ахвяраваў сваё жыццё за іх, Ён абмыў ім ногі. І прыйдзе дзень, калі яны будуць служыць адзін аднаму і ахвяруюць сваё жыццё за Езуса. Сёння Езус – добры выхавальнік, сваёй навукай накіроўвае іх на гэтую дарогу. Вучыць іх разважаць паводле прынцыпаў любові.

*– Ці шукаю ў Езуса адказаў на ўсе свае пытанні?*

*– Як паводжу сябе, калі мне штосьці незразумела або штосьці мяне перарастае?*

*– Можа, паддаюся шатанскай спакусе не давяраць больш Богу?*

*– Можа, са страху ці з іншых пачуццяў не іду за Божым словам, скіраваным да мяне?*

*– Ці лічу сябе Яго вучнем?*

*– Ці слухаю Яго?*

*– Ці бачу, як Ён вучыць мяне ісці дарогай любові?*

*– Ці бачу, як Ён вядзе мяне праз гады?*

*– У якіх справах я памяняў сваю думку і пачаў думаць па-Хрыстоваму?*

*– З якімі справамі і праблемамі ў маім сэрцы цяпер змагаецца мой Езус?*

*– Як я магу дапамагчы Яму перамяніць сябе?*

*– Што думаю пра любоў да слабых?*

*– Ці ўмею служыць, як Езус, братам?*

*– Ці бачу ў хворых, убогіх, грэшных сваіх братоў, якім патрэбна мая дапамога і мая малітва?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Віншуем і дзякуем!

У нашага паважанага **святара Андрэя Куліка** 26 жніўня – Дзень нараджэння. Хочацца, каб усе добрыя людзі і ўсе чытачы "Каталіцкага Весніка" памаліліся разам з намі за яго. Дзякуючы Божаму Провіду шляхі нас, вернікаў, перасякліся са святарскім шляхам нашага цяперашняга пробашча. Ужо амаль год ксёндз Андрэй працуе ў парафіі. Мы вельмі рады, што нам так пашчасціла і дзякуем Пану Богу за яго.

Ксёндз Андрэй – святар ад Бога, асоба шматгранная, у якой гарманічна спалучыліся якасці пастыра, багаслова, філосафа, спевака, чалавека высокай духоўнай культуры, чулага, адкрытага. Сваімі ўчынкамі, адносінамі да людзей, казаннямі ў час святой Імшы ксёндз Андрэй прыцягвае да сябе, да Касцёла, спрыяе духоўнаму ачышчэнню, асабліва дзяцей і моладзі. Інтэлегентны, мудры, наш пробашч наладзіў адносіны з парафіянамі. Гэта вельмі добразычлівы, добрасумленны і шчыры чалавек. Дзякуючы яго намаганням, умелнню і цярплівасці наш Божы храм становіцца ўсё больш прыгожым і ўтульным. Вялікі дзякуй святару за цудоўнае свята з нагоды 25-годдзя рэкансэкрацыі касцёла, якое адбылося 10 мая гэтага года. Дзякуем за клопат, ласку і дабрыню, за тое, што вучыць любіць Бога і бліжняга, за ўсё, што робіць для нашай святыні.

Паважаны ксёндз Андрэй! З нагоды Дня нараджэння дасылаем Вам букет самых шчырых пажаданняў: няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі і ўзмацняе ў выкананні нялёгкага святарскага служэння; няхай святы заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам; няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашай душпастырскай працы; няхай Пан Езус будзе Вашым сябрам, а Яго Маці моцна прытуляе Вас да свайго сэрца! Няхай добры Бог шчодра аддзячыць Вашым бацькам за такога сына!

*З малітвай да Бога Хрыста-Уладара*
*Віншуем сардэчна свайго святара!*
*Ад чыстага сэрца здароўя жадаем,*
*Вас Духу Святому заўжды даверяем!*
*Хай сыйдзе на Вас і асветліць святлом,*
*Здароўе ўмацуе, сагрэе цяплом!*
*А Божую Маці мы будзем маліць,*
*Каб ласкай Хрыстовай святар наш мог жыць!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Унебаўшэсця Хрыста, в. Дзеркаўшчына***



**Хвала Хрысту!**

*Віншуем з Днём нараджэння шаноўнага* ***ксяндза-пробашча Мікалая Ліпскага*** *(3-га жніўня). Бог шчодра надзяліў нашага святара талентам тварыць, упрыгожваць. За восем гадоў яго душпастырства ў Лучайскай парафіі наш касцёл стаў асяродкам глыбокай пабожнасці і культуры.*

*Дзякуем за цудоўныя нядзельныя адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, за ўзнёслыя Фацімскія набажэнствы, прыгожыя фэсты і пілігрымкі. А з якім вялікім мастацкім густам ствараецца комплекс святых апосталаў, барэльефаў у сценах мура! Узвышаецца каплічка святога Францішка Асізскага, аточаная кветкамі. Нядаўна па ініцыятыве ксяндза адкрыўся музей у гонар нашай знакамітай зямлячкі Ганны Дубовік (сястры Міхаэлы).*

*На жаль, з кожным годам парафіян становіцца ўсё менш, людзі адыходзяць у вечнасць. Але наш пробашч знаходзіць мудрыя рашэнні, каб працягваць справу па добраўпарадкаванні як вакол святыні, так і на могілках. Вялікая заслуга ў працы ля касцёла і на могілках бацькоў ксяндза Мікалая: Ванды і Пятра Ліпскіх. Шчыра дзякуем ім за гэта, а таксама за сына.*

*Паважаны ксёндз Мікалай! Духоўнай і фізічнай моцы Вам! Няхай Божая Маці атуляе апекай нялёгкі святарскі шлях.*

*Бруіцца жыватворнаю крыніцай*
*Жыццё касцёла, веры ўзмацненне.*
*Вам, пробашч, хочам нізка пакланіцца*
*За восем год адданага служэння.*

*Здароўя зычым, каб было мацнейшым,*
*Трываць у працы і святарскай служэбе.*
*Хай Бог Вас бласлаўляе і ў далейшай,*
*Хоць цяжкай, ды пачэснае паслузе!*



***З малітвай і найлепшымі пажаданнямі, вернікі з парафіі св. Юды Тадэвуша, в. Лучай***

# Каляндар на верасень

**8 верасня – Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята прысвечана ўспаміну нараджэння Маці Езуса Хрыста. У Новым Запавеце падаецца вельмі мала звестак пра жыццё Багародзіцы, і падзея, якая адзначаецца ў гэты дзень, зафіксавана толькі ў касцельным паданні, каторае расказвае, што бацькамі Панны Марыі былі пабожныя Яўхім з роду цара Давыда і Ганна – з роду першасвятароў. Панна Марыя нарадзілася па адмысловым зароку Бога, дадзеным Яўхіму і Ганне, калі яны былі ўжо ў сталым узросце. Святкуючы Нараджэнне Багародзіцы, хрысціяне падкрэсліваюць, наколькі важная роля адведзена Панне Марыі ў ажыццяўленні плану выратавання чалавецтва.

Першыя згадванні пра свята Нараджэння Багародзіцы датуюцца другой паловай V стагоддзя. Прыкладна ў гэты ж час падзея была ўключана ў касцельны каляндар.

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**

У гэты дзень праслаўляем Яе імя – "Марыя", якое, паводле традыцыі, яна атрымала на чацвёрты дзень пасля свайго нараджэння. Гэтае імя ад пачатку хрысціянства з вялікай пашанай вымаўлялася побач з імем Езуса.

**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**

Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Гроба Пана, у якім устанавілі знойдзены Крыж Збаўцы (адшукала крыж святая Алена – маці імператара Канстанціна). Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі людзей. У Рыме свята было ўведзена Папам Грыгорыем І.

**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**

Марыя трывала ў адзінстве са сваім Сынам аж да крыжа, пад якім стала згодна з Божым намерам. Глыбока цярпела разам са сваім Сынам і злучылася матчыным сэрцам з Яго ахвяраю. Найсвяцейшая Панна, ахвяруючы Езуса ў святыні і церпячы разам са сваім Сынам, Які паміраў на крыжы, асаблівым чынам супрацоўнічала са справаю Збаўцы праз веру, надзею і гарачую любоў, каб аднавіць звышнатуральнае жыццё душ.

**21 верасня – успамін св. Мацвея, апостала і евангеліста.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпет і Эфіопію. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**29 верасня – Дзень святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафаіла.**

Святы Арханёл Міхаіл – апякун Касцёла ў Беларусі. Імя "Міхаіл" некалькі разоў узгадваецца ў Святым Пісанні і азначае "Хто як Бог". У Евангеллі гаворыцца яшчэ пра аднаго Арханёла – Габрыэля, які прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына – святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста. Арханёл Рафаіл згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Лічыцца, што ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў.

*Падрыхтавала*
***Марына Ткач***

# Увага! Падпіска на чацвёрты квартал 2015 года!

**Дарагія сябры!**
Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік".
**Кошт падпіскі**
на месяц – **7500** рублёў,
на 3 месяцы – **22500** рублёў.
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".
**Наш падпісны індэкс 63783**
**Дарагія браты і сёстры!**
Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і Яго Касцёл.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў:

- **1 верасня** – імяніны адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч ОР** (Віцебск);
- **4 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антон Лагунёнак** (Канстанцінава); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** (Порплішча);
- **9 верасня** – імяніны адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** (Друя);
- **18 верасня** – імяніны адзначае **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** (Браслаў);
- **19 верасня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** (Верхнядзвінск);
- **21 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Альфрэд Пехота MS** (Відзы);
- **22 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** (Наваполацк);
- **24 верасня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **а. Віталь Юркевіч OFMCap** (Докшыцы);
- **26 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Аніскевіч** (Лепель);
- **28 верасня** – імяніны адзначаюць **кс. Вячаслаў Барок** (Расоны); **кс. Вячаслаў Адамовіч** (Мёры); **кс. Вячаслаў Пялінак** (Ідолта); **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** (Талачын);
- **29 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Славамір Самковіч** (в. Пагошча); імяніны адзначаюць **а. Міхаіл Ермашкевіч ОР** (Віцебск); **кс. Міхаіл Татарэнка** (Лужкі).

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў.**

*Падрыхтавала*
***Марына Ткач***

# У Лучаі адбылося благаслаўленне дзяцей і настаўнікаў на новы навучальны год



Урачыстасць адбылася ў нядзелю 23 жніўня.

Акрамя благаслаўлення дзяцей і настаўнікаў трое дзетак прынялі ў гэты дзень Першую Камунію.

Ну, а пасля Імшы парафіян і гасцей свята чакаў святочны канцэрт. На гэты раз гледачоў парадавалі сваім выступленнем гурт "Рэха" і акардыяніст-віртуоз Дзмітрый Корсак, якія ўжо стала прапісаліся на лучайскіх фэстах.

***Зміцер Лупач***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Маргарыта Гайковіч** *(Узда)*, **Алена Маліноўская** *(в. М. Сырмеж, Мядзельскі р-н)*, **Ядвіга Аніськовіч** *(Новы Пагост)*, **Ганна Івашэнка** *(Смаргонь)*, **Ганна Івашэнка** *(Астравец)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Марыя Матус** *(Валожын)*, **Францішка Краско** *(Ветрына)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **парафіяне з Дзеркаўшчыны**, **Валянціна Віткоўская** *(в. Шудаўцы, Пастаўскі р-н)*, **Раман Цярэнцьеў** *(Полацк)*, **Рэгіна Сідарэвіч** *(Маладзечна)*, **Абуховіч В.** *(в. Дунілавічы)*, **Эдуарда Ермаковіч** *(в. Сіцы)*, **парафіяне з Дуброўна**.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь»

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. Заказ 5447

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах. Тыраж 3000 экз. Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3. Афсетны друк. Падпісана ў друк 25.08.2015 г. у 20.25

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь